ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

27 ЧЭРВЕНЯ 2003 г. № 26/4212 КОШТ 540 РУБ.



Фота Ул. КРУКА

22 чэрвеня 2003 года пасля цяжкай і працяглай хваробы пайшоў з жыцця народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі Васіль Уладзіміравіч БЫКАЎ

# ПАМЁР Васіль БЫКАЎ

# КОЛА ДЗЁН

***22 чэрвеня 62 гады назад фашысцкая Германія напала на Савецкі Саюз. Як для ўсіх народаў былога Саюза для нашай краіны Другая сусветная вайна была і застаецца Вялікай Айчыннай вайной.***

## ПЕРАНОС ТЫДНЯ

У сувязі з уваходжаннем у Еўрапейскі Саюз Польшча планавала ўвесці візавы рэжым з нашай краінай з 1 ліпеня. Аднак была вымушана перанесці гэта на 1 кастрычніка 2003 года. Рашэнне аб пераносе звязана з негатоўнасцю консульскіх служб Беларусі, Расіі і Украіны да ўвядзення візавага рэжыму, а таксама ў сувязі з неабходнасцю ўдасканалення прававой базы.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Па дадзеных Нацбанка ў абарачэнні на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца 433200000 банкнот беларускіх рублёў рознага наміналу. Для параўнання ў Расійскай Федэрацыі ў абарачэнні 3,5 мільярды банкнот і 14,9 мільярда манет.

## РОСТ ТЫДНЯ

Прыватныя малыя прадпрыемствы паказваюць больш высокія тэмпы росту па асноўных эканамічных паказчыках, чым гэты рост забяспечваецца ў цэлым па нашай краіне. Такую выснову робяць у Міністэрстве эканомікі, аналізуючы адпаведныя вынікі мінулага года. Тэмпы росту вытворчасці прамысловай прадукцыі ў "малым сектары" склалі 117,8 працэнта, а ў цэлым па краіне — 104,3. Рэнтабельнасць — адпаведна зафіксавана на ўзроўні 11,3 працэнта і 8,7.

## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Супрацоўнікі Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі правялі апытанне больш як 1.100 рэспандэнтаў ва ўзросце да 16 гадоў, як яны адносяцца да смяротнага пакарання. 67 працэнтаў выступілі за захаванне смяротнага пакарання, 19 працэнтаў — за яго адмену і 14 працэнтаў не змаглі вызначыць свайго стаўлення да гэтага.

## ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

Пастановай Міністэрства транспарту і камунікацый ў нашай краіне ўведзены ў дзеянне новыя тарыфы на праезд пасажыраў у аўтобусах рэгулярных маршрутаў міжгародніх зносін. Цяпер за кожны кіламетр праезду ў аўтобусах рэгулярных маршрутаў міжгародніх зносін пасажыр будзе плаціць па звычайных маршрутах: у аўтобусах агульнага тыпу — 34,4 рублі (было 30,2 рубля), у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 39 рублёў (было 34,2 рубля). На хуткасных маршрутах: у звычайных аўтобусах — 44,7 рубля (было 39,3 рубля), і "мяккіх" — 50,7 рубля (было 44,5) за кожны кіламетр праезду. Апошні раз тарыфы змяняліся ў канцы кастрычніка мінулага года.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што са студзеня 2004 года плануецца ўвядзенне новых нумарных знакаў на аўтамабілі. Яны будуць устанаўлівацца на толькі што набытыя аўтамабілі, а таксама па жаданні ўладальнікаў транспартных сродкаў. Нумарныя знакі будуць адзінымі для ўсіх катэгорый грамадзян. Асаблівымі адрозненнямі новых знакаў з сям'ю ступенямі абароны з'яўляюцца лічбавае абазначэнне вобласці і горада Мінска (сталіцы будзе прысвоена лічба "7"), а таксама выява дзяржаўнага сцяга.

## ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь у хуткім часе можа быць скарочаны пералік асоб, якім дзяржава прадастаўляе пры набыцці лекавых сродкаў тыя ці іншыя льготы. Цяпер у краіне рыхтуецца праект закона "Аб упарадкаванні льготаў", які закранае і грамадзян, што маюць льготы пры набыцці лекаў. Сёння льготамі на лекавае забеспячэнне карыстаецца 37 катэгорый грамадзян Беларусі.

## ВЫГОДЫ ТЫДНЯ

І хоць у нашай сталіцы штогод устанаўліваецца каля 30.000 вадамераў (у асноўным у навабудоўлях), але ў цэлым лічыльнікамі вады абсталявана толькі каля 13 працэнтаў кватэр. Жыхары кватэр з лічыльнікамі плацяць толькі за тое, што скарысталі, а вось астатнія часам плацяць за сябе і за суседа, у якога не адрамантаваныя краны і вада цячэ бясконца.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У нашай краіне будзе свой галоўны Дзед Мароз, які будзе жыць у дзяржаўным нацыянальным парку "Белавежская пушча". Рэзідэнцыя размесціцца ў лесе, непадалёк ад паляны, дзе зімой падкормліваюць статак зуброў.

# У ВЯНОК-ПЕСНЯРУ

**28 чэрвеня 1942 не стала Янкі Купалы. Трагічна абарвалася жыццё народнага песняра.**

**У дзень памяці песняра а 8-й гадзіне ў касцёле Святога Роха на Златой горцы адбудзецца імша, а 10 гадзіне — ускладанне кветак да надмагільнага помніка песняру на Вайсковых могілках па вуліцы Казлова.**

**Ушанаваць памяць паэта прыйдуць беларускія пісьменнікі, навуковыя супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, прадстаўнікі грамадскасці.**

**Як і заўсёды, гасцінна чакаюць вас у гэты дзень у музеі, каб яшчэ раз правесці наведвальнікаў шляхамі Купалы, расказаць аб жыцці і творчасці слаўтага сына зямлі беларускай (г. Мінск, вул. Янкі Купалы, 4).**

# БЫКАЎ
# ВАСІЛЬ УЛАДЗІМІРАВІЧ



**Беларуская літаратура панесла непапраўную страту. 22 чэрвеня 2003 года пасля цяжкай і працяглай хваробы пайшоў з жыцця народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі Васіль Уладзіміравіч Быкаў.**

**Васіль Быкаў нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Шляхамі Вялікай Айчыннай вайны прайшоў праз Украіну, Венгрыю, Румынію, Аўстрыю, быў двойчы паранены. Пасля вайны працаваў у газеце "Гродненская правда". З 1978 года знаходзіўся на літаратурнай рабоце.**

**Ваенныя падзеі сталі лёсавызначальнымі для жыццёвага і творчага шляху Васіля Быкава. Імкненне перадаць праз мастацкае слова суровую праўду вайны, абвостраная чалавечнасць, высокая патрабавальнасць у сцвярджэнні маральных прынцыпаў — вось адметныя якасці Быкава-пісьменніка.**

**Сапраўдная літаратурная біяграфія пісьменніка пачалася з аповесці "Жураўліны крык", якая выйшла ў 1960 годзе. Звярнуўшыся ў ранніх творах да ваеннай тэмы, Васіль Уладзіміравіч працаваў над ёй на працягу амаль усяго свайго жыцця. Аповесці Васіля Быкава "Трэцяя ракета", "Альпійская балада", "Абеліск", "Сотнікаў", "Знак бяды" і іншыя належаць да лепшых узораў сучаснай беларускай прозы.**

**Творчасць пісьменніка шырока вядомая за межамі Беларусі. Кнігі Васіля Быкава выходзілі на 35 мовах свету. Агульны тыраж выданняў пісьменніка склаў больш за 3 мільёны экземпляраў, у тым ліку на беларускай мове 1,2 мільёна экземпляраў. Паводле твораў В.Быкава пастаўлены кінафільмы, спектаклі, балет, опера.**

**Імя і кнігі Васіля Быкава назаўжды ўвайшлі ў гісторыю нацыянальнай культуры. Светлая памяць аб выдатным майстры беларускага слова жыве і будзе жыць у нашых сэрцах.**

**А. Р. Лукашэнка, Г. В. Навіцкі, А. П. Вайтовіч, В. А. Папоў, У. Р. Латыпаў, У. Н. Дражын, А. В. Праляскоўскі, М. В. Падгайны, Л. П. Гуляка, Л. С. Мальцаў, П. І. Брыгадзін, У. П. Андрэйчанка, М. Я. Паўлаў, К. А. Пачэпка, І. І. Вашкевіч, А. М. Новікаў, А. А. Пашкевіч, М. І. Чаргінец, І. П. Шамякін.**

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## ВАГОН

**Памяці Васіля Быкава**

*Гатоў прайсці*
*Ахвярна праз агонь,*
*Разрыць сузор'е не адно,*
*як пасеку!*
*Вы памажыце*
*мне знайсці вагон,*
*Што вёз яго з замежжа,*
*Нібы пасынка.*

*Натомлены,*
*Сядзеў ён ды ляжаў,*
*З аблічам шэрым,*
*як пасля кантузіі.*
*Ну а вагон пад ім, як дыліжанс,*
*Чамусьці дрогка кідала*
*Ды тузала.*

*Ах, як хацеў ён*
*Вырвацца з купэ,*
*Гадам, знявагам,*
*славе даўшы выспятка,*
*Зарыцца з лёту ля ракі*
*ў капе,*
*Ды, як калісь, да дна,*
*Са смакам выспацца.*

*На мытні,*
*Пераправе з перапраў, —*
*Што статус там! —*
*хвілінаю пагодняю*
*Вагон на рукі, нібы птаха, браў,*
*Тупіў, гарнуў, галубіў*
*Ды пагойдваў.*

*Прабегшы*
*Столькі рэек і дарог*
*На дыбачках, то, як мядзведзь,*
*то з грацыяй, —*
*Напэўна,*
*ён і сам сказаць не мог, —*
*З круіза вёз яго*
*Ці з эміграцыі?!*

*І плечы сцяў, —*
*Адно б не зарыдаць! —*
*Калі яго, як воіна і ратніка,*
*Спяшаў сябрам*
*у рукі перадаць, —*
*Маўляў, вазьміце ціха,*
*Акуратненька!..*

*Ну а пасля,*
*Бы стаўся паўсляпы,*
*З нудою і гаркотай*
*перасмягламо,*
*Чапляўся ён за сцены*
*і слупы,*
*Пакуль вагоны на пуці*
*Выцягвалі.*

*Не помніў,*
*Як за ветрам наўздагон*
*Ляцеў,*
*імчаў,*
*збіваў,*
*ён з яблынь спасаўкі...*
*Мне памажыце*
*адшукаць вагон,*
*Што вёз з замежжа Быкава,*
*Як пасынка!*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў глыбока смуткуе з прычыны смерці Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча БЫКАВА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

# НА 80-м ГОДЗЕ ЖЫЦЦЯ ПАМЁР КЛАСІК БЕЛАРУСКАЙ І СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ ВАСІЛЬ БЫКАЎ

## ПРА ХВАРОБУ І СМЕРЦЬ ПІСЬМЕННІКА

***Цяжкую страту панесла беларуская і сусветная літаратура — на 80-м годзе жыцця памёр вядомы пісьменнік Васіль Быкаў. Ён пайшоў з жыцця пасля працяглай хваробы 22 чэрвеня ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М. Аляксандрава.***

Дзень смерці пісьменніка супаў з гадавінай пачатку Вялікай Айчыннай вайны. 22 чэрвеня — дата, якая перавярнула жыццё франтавіка і прымусіла ўзяцца за пяро, яна ж забрала яго з сабой. Апошні дзень нараджэння Васіль Быкаў адзначыў за тры дні да смерці на радзіме, куды вярнуўся пасля лячэння за мяжой.

Як расказалі ў Інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, Васілю Быкаву 27 сакавіка ў Празе была зроблена аперацыя. Пасля аперацыі пачалі расці метастазы ў печані. Пасля прыезду ў Мінск пісьменнік быў тэрмінова шпіталізаваны. Дэталёвае абследаванне ў інстытуце паказала, што практычна ўся печань занятая ракавай пухлінай і паступова развіваецца лячоначная недастатковасць. Было зроблена ўсё магчымае і нават немагчымае, каб палепшыць стан здароўя Васіля Быкава і крыху падоўжыць яго жыццё. Але, на жаль, ужо было позна. 21 чэрвеня на фоне пячоначнай недастатковасці стала прагрэсіўна пагаршацца дзейнасць сэрца. 22 чэрвеня працэс набыў незваротны характар і ў 20.30 Васіль Быкаў памёр. У яго лячэнні прымалі ўдзел многія спецыялісты інстытута: анколагі, хіміятэрапеўты, радыёлагі, рэаніматары, кардыёлагі, пульманолагі, алерголагі. Акрамя таго, Васіль Быкаў шмат гадоў пакутаваў ад бранхіяльнай астмы. Ляжаў ён у асобнай палаце, 20 чэрвеня быў пераведзены ў рэанімацыю. Наведвальнікаў да яго ўжо не пускалі, акрамя жонкі і сыноў.

## Прэзідэнты Беларусі і Расіі накіравалі спачуванні сям'і Васіля БЫКАВА

### СВЕТЛАЯ ПАМЯЦЬ ПРА ВЕРНАГА СЫНА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА НАЗАЎСЁДЫ ЗАСТАНЕЦЦА Ў НАШЫХ СЭРЦАХ

І. М. Быкавай,
родным і блізкім
народнага пісьменніка Беларусі
В. У. Быкава

Паважаная Ірына Міхайлаўна!
Паважаныя родныя і блізкія Васіля Уладзіміравіча!

Прыміце мае шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча Быкава. Падзяляю з вамі жалобу і цяжар гэтай незаменнай страты.

Васіль Быкаў ніколі не шукаў пратаптаных сцежак у жыцці і творчасці. Але, нягледзячы ні на што, ён заўсёды заставаўся патрыётам сваёй Радзімы.

Кнігі Васіля Уладзіміравіча прасякнуты імкненнем распавесці сучаснікам і нашчадкам праўду пра Вялікую Айчынную вайну без фальшу і лакіроўкі, аддаць належнае мужнасці простых людзей, што выстаялі і перамаглі ў цяжкай барацьбе з ворагам.

Імя Васіля Быкава шырока вядома ў Беларусі і за межамі. На яго-ных кнігах выхавана не адно пакаленне грамадзян нашай краіны.

Светлая памяць пра вернага сына беларускага народа выдатнага пісьменніка Васіля Уладзіміравіча Быкава назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

23 ЧЭРВЕНЯ 2003 ГОДА

## СМУТАК НАШ НЕВЫМЕРНЫ

Толькі тыдзень таму мы, рыхтуючы чарговы выпуск "ЛіМа", горача абмяркоўвалі, які здымак Васіля Быкава паставіць у нумар, каб павіншаваць яго з днём нараджэння. І вось — балючая вестка. Васіля Быкава не стала.

Ён памёр у дзень чарговай гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны, у дзень трагедыі і смутку нашага народа, усе гэтыя 62 гады знаходзячыся на перадавой лініі барацьбы беларусаў за свабоду і незалежнасць. І франтавыя, і жыццёвыя выпрабаванні, што выпалі на яго долю, трываць мог толькі чалавек велізарнай мужнасці і нязломнага духу — толькі ён, Васіль Быкаў. Пра вайну ён ведаў усю праўду — і праз свае творы, кожным моўленым словам змагаўся за тое, каб ніколі больш нечалавечыя выпрабаванні не выпадалі на долю нашага народа.

"Альпійская балада", "Сотнікаў", "Круглянскі мост", "Знак бяды", "Кар'ер", "Балота", "Жаўты пясочак"... Веліч гэтых твораў не толькі ў гранічнай праўдзівасці, але і ў духоўна-душэўным вырашэнні праблемы выбару. Годнага выбару ў тых акалічнасцях, калі выбару, здаецца, няма. Выбар ёсць заўсёды.

Васіль Быкаў свой шлях — шлях высокага духу — мужна прайшоў да канца, пакінуўшы нам прыклад жыцця, адданага служэнню праўдзе, служэнню свайму народу.

Калектыў
Рэдакцыйна-выдавецкай установы
"Літаратура і мастацтва"







Савет Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з выпадку смерці народнага пісьменніка Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Васіля Уладзіміравіча Быкава і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

Кафедра беларускай мовы і літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры разам з мільёнамі чытачоў глыбока смуткуе з прычыны невымернай страты — заўчаснай смерці слаўнага сына беларускага народа, Вялікага пісьменніка Васіля Быкава і выказвае спачуванне родным і блізкім Васіля Уладзіміравіча.

Развітанне з Васілём Уладзіміравічам Быкавым прайшло 25 чэрвеня 2003 года ў Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5) у 10 гадзін раніцы.

Грамадзянская паніхіда адбылася ў 13 гадзін.

Пахаваны Васіль Быкаў на Усходніх могілках Мінска.

# ДЭКАНУ ФІЛФАКА — 50!

Сярод яго папярэднікаў знакамітыя асобы: М. Ларчанка, А. Воўк, А. Лойка, Л. Мурына, і гэта толькі за апошнія дзесяцігоддзі.

Выбранне прафесара І. Роўды на пасаду дэкана падаецца аднак невыпадковым. Факультэт рыхтуе Айчыне не толькі настаўнікаў, выкладчыкаў, рэдактараў, навукоўцаў, але і пісьменнікаў, перакладчыкаў і г. д. Таму асоба чалавека, які ўзначальвае ўвесь навучальна-выхаваўчы працэс, мае вызначальную ролю.

Нарадзіўся І. Роўда 13 чэрвеня 1953 года ў Мядзелі (тады мястэчка), паспяхова скончыў філалагічны факультэт БДУ, а потым аспірантуру пры ім. Працаваў выкладчыкам, у тым ліку, і за мяжой, удзельнічаў у шматлікіх навуковых сімпозіумах у Італіі, Вялікабрытаніі, Фінляндыі, Чэхіі.

Сярод творчых здабыткаў І. Роўды больш за 150 публікацый, сярод якіх падручнікі, дапаможнікі, артыкулы.

Час ідзе, аднак да юбіляра ён ласкавы. Сёння І. Роўда, як і заўсёды, імпазантны, элегантны і малады.



Дык хай зычлівымі будуць яго калегі, шчаслівымі дарогі, хай доўга б'ецца сэрца маці Клаўдзіі Лявонцьеўны, нехай не змаўкае ў душы пошум сосен над роднай Нарачччу.

Віктар КАРАТАЙ
і калектыў лабараторыі беларускага фальклору БДУ

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Падзеям Маладзечанскага нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні будзе прысвечаны выпуск "Літаратурнага праспекта", які, як заўсёды, прагучыць у суботу, у 10.45. У свой звычайны час пройдуць аўтарскія праграмы "Брама", "Авансцэна", "Сентыментальнае паляванне". Іх пачатак у 22.30.

"Клас і К" у суботу ў 16.15. Імгненні паэзіі ў праграме "Канцэртная зала" ў нядзелю ў 21.30. Ну, і, безумоўна, "Кароткія гісторыі" штодзень акрамя выхадных апоўначы.

На канале "Культура" працягваецца чытанне аповесці У. Караткевіча "Ладдзя роспачы". У аўторак — літаратурны блок з Галінай Шаблінскай. Пачатак у 14.10.

У нядзелю — "З фондаў радыё". І. Шамякін. "І змоўклі птушкі". Кампазіцыя спектакля. Пачатак у 19 гадзін.

Н. К.





***Пісьменніца нарадзілася ў 1949 годзе ва універсітэцкім горадзе Тарту, дзе і скончыла факультэт эстонскай літаратуры. Першая кніга з'явілася ў 1979. Першы раман "Свабода і каханне" пабачыў свет у 1994 годзе. Дзіцячыя кніжкі выходзілі ў перакладах на рускай і літоўскай мовах. Сама перакладала з рускай і нямецкай. Асобныя яе навелы перакладаліся на нямецкую, французскую, літоўскую, балгарскую і рускую мовы. Раман "Свабода і каханне" выйшаў у Маскве ў 2002 годзе. Як літаратар стажыравалася ў нямецкім Мюнхене і аўстрыйскім Грацэ. Піша таксама тэатральную і літаратурную крытыку. Яе творы двойчы былі высока адзначаны ў Эстонскай Рэспубліцы на спецыяльных конкурсах лепшых раманаў.***

Дзякуем Алесю РАЗАНАВУ за перададзены ў рэдакцыю тэкст Рээт КУДУ.

Рээт КУДУ

# ІДАЛ «ВЯЛІКАЙ НІКЧЭМНАСЦІ»

## Чаму новая Эстонская Рэспубліка мала цікавіць эстонскіх пісьменнікаў?

Гісторыя сучаснай Эстоніі для сённяшніх пісьменнікаў часта тэма-табу. Цяпер вельмі модная так званая "чыстая" літаратура! Калі мы бярэм у рукі Таммсаарэ, дык адразу разумеем, што ўсё дзеянне адбываецца ў Эстоніі. Чытаючы Дастаеўскага, бачым, што галоўныя героі — рускія. У "чыстай" жа прозе героі нібыта не маюць радзімы. Яны жывуць недзе на Зямлі, і ўсё, што іх цікавіць — гэта іх асабістыя перажыванні. Усе грамадскія і гістарычныя падзеі займаюць іх менш за ўсё. Ніхто не хоча або не можа быць такім самакрытычным, як даваенны Антон Таммсаарэ, ніхто не хоча хоць бы паспрабаваць напісаць сучасную гісторыю пра нядаўняе мінулае або апісаць хоць бы адзін з самых цікавых этапаў у гісторыі Эстонскай Рэспублікі.

Першы вядомы пісьменнік гэтай "чыстай" прозы Тыну Ыннепалу, пра якога Яан Кросс скажа так: "Ён піша добра, але ні пра што". Дададзім: "Ён не піша пра галоўнае, пра важнае!" Тыну Ыннепалу (псеўданім Эміль Тадэ) нарадзіўся ў 1962 годзе. Ён пачаў з паэзіі, але крытыка ацэніць яго раманы значна вышэй. Тыну Ыннепалу стаў вядомым і знакамітым толькі пасля таго, як яго раман "Краіна-мяжа" быў выдадзены ў Францыі ў 1993 годзе. Свой першы раман ён выдаў сам і на вельмі кепскай паперы. Герой рамана гомасексуаліст, ненавідзіць усіх людзей, а не толькі жанчын. І асабліва ненавідзіць свайго партнёра, багатага француза. Дзеянне адбываецца ў Парыжы. Напрыканцы герой забівае свайго каханка.

Раман ахвотна раскупляўся ў Эстоніі, калі стала вядома, што ён быў выдадзены ў Францыі. Цяпер раман "Краіна-мяжа" перакладзены больш як на восем моваў. А ў Эстоніі Тыну Ыннепалу можа выдаць што заўгодна і любым накладам, прычым ужо на самай лепшай паперы. Мяне зацікавіла прычына поспеху літаратара і яго канкрэтнага тэксту. Яан Кросс жа сказаў, што "...ён піша ні пра што".

Тыну Ыннепалу быў першым у Эстоніі, хто адкрыта напісаў пра гомасексуалізм — пра гэтых людзей, якіх у Савецкім Саюзе лічылі злачынцамі і садзілі ў турмы. Ён таксама быў адным з тых, хто ўпершыню здолеў апісаць пачуццё нянавісці. Прычым не проста да суседа ці ворага, а нянавісць да ўсяго.(Таму я пераклала назоў рамана як "Краіна-мяжа", хоць можна было б — "Памежная краіна"). Краіна-мяжа, вядома ж, Эстонія, але пра самую Эстонію ў рамане гаворыцца вельмі мала, як і амаль ва ўсіх новых вядомых кнігах. Хачу адзначыць, што і сам раман — гэта нібыта "кніга-мяжа". Адразу пасля Ыннепалу некаторыя пісьменнікі сталі адкрыта ўслаўляць нянавісць, каб стаць у Эстоніі знакамітымі.

Многія папулярныя пісьменнікі былой Савецкай Эстоніі цяпер журналісты. Напрыклад, Міхкель Муцць, які стаў галоўным рэдактарам вядомай раней газеты "Sirp". Некалі, на пачатку 90-х, ён напісаў вельмі дасціпны раман пра той час, калі працаваў разам з нашым першым прэзідэнтам Леннартам Меры. Міхкель Муцць усё ж выдаў раман пра сучасных журналістаў. Війві Луйк — як жонка эстонскага пасла — жыла доўга ў Італіі, і гэтая абставіна аддаляе яе ад Эстоніі і, на мой погляд, не натхняе на напісанне нечага крытычнага. Маці Унт, Міхкель Муцць, Війві Луйк былі маімі самымі любімымі пісьменнікамі — смелыя, сучасныя, дасціпныя. Яны заўсёды пісалі не толькі добра, але і пра нешта галоўнае, пра тое, што хвалявала ўсіх нас у сучаснай гісторыі. Яны былі напаўдысідэнтамі для савецкай улады.

Чаму цяпер яны маўчаць пра галоўнае?! Здавалася б, цэнзуры няма! Свабода — пішы пра што хочаш!!! Чаму яны не проста перасталі крытычна пісаць, але яшчэ і гавораць пра тое (як Маці Унт), што яны больш не пісьменнікі? Маці Унт, Міхкель Муцць і Війві Луйк былі заўсёды майстрамі псіхалагічнага рамана, для іх быў абсалютна чужы і не ўласцівы так званы сацыялістычны рэалізм, у якім тэма і ідэалогія былі важней, чым сама літаратура.Раней яны заўсёды бачылі глыбіню, а цяпер яны на баку ўлады новай Эстонскай Рэспублікі.

Прыгадаем. Цудоўная паэтэса Війві Луйк напісала свой першы раман "Сёмая мірная вясна" пра тое, што бачылі вочы маленькай дзяўчынкі ў сталінскія часы. Гэта быў унікальны раман. А дзе ж цяпер гэтая дзяўчынка, якая так дасціпна апісвала пасляваенныя гады? Чаму пісьменніца Війві Луйк не хоча або не можа гэтак жа дасціпна напісаць пра новы час? Як яна, да прыкладу, напісала ў рамане "Прыгажосць гісторыі" (1991) пра падзеі ў Чэхаславакіі 1968 года. Але цяпер яна ўжо не апартуністка! Яна нібыта сярод "пераможцаў", такіх як Міхкель Муцць і Маці Унт. Бо здзейснілася іх мара: Эстонія — вольная. Яны больш не напаўдысідэнцкія пісьменнікі, што пагарджаюць савецкай уладай, яны — сябры нашага першага прэзідэнта Леннарта Меры. Гэтэ добра пісаў, нават тады, калі быў саветнікам пры двары. Але не ўсе пісьменнікі гэтак могуць. Многія з вялікіх класікаў былі ў той ж час і вялікімі крытыкамі грамадства. А каго крытыкаваць цяпер, калі ўлада — гэта сябры?! Напэўна, гэта не адзіная прычына іх маўчання. На жаль, амаль усе самыя вядомыя ў мінулым апартуністы ўжо даўно не пішуць крытычныя раманы. Я магу зразумець, чаму Хемінгуэй і многія іншыя класікі былі спачатку журналістамі, а пасля сталі пісьменнікамі. А ў нас усё наадварот: пісьменнікі робяцца журналістамі. Цяпер наш самы папулярны пісьменнік ужо не Тыну Ыннепалу, а разбагацелы Каур Кендэр, які выдаў свой першы раман гэтак жа як і Тыну Ыннепалу. Назоў рамана Каура Кендэра гучыць як палітпадручнік — "Дзень незалежнасці", але пра палітыку там ані слова. Каур Кендэр нібыта "эстонскі Эдуард Лімонаў", які піша ў сваіх апошніх раманах пра Амерыку і ні радка пра Эстонію. Але справа не ў Амерыцы. Эдуард Лімонаў у сваім першым рамане "Гэта я — Эдзічка" апісвае пачуцці пакінутага мужчыны. Нягледзячы на тое, што раман выклікаў нейкае пачуццё гідлівасці, усё ж нельга не прызнаць, раман Лімонава вельмі эмацыйны, і ў ім адчуваецца сапраўдны боль і пакуты. У сваім першым рамане (перавыдадзены ўжо тры разы) Каур Кендэр апісвае толькі тых людзей, якія хочуць стаць багатымі. Няма кахання, няма болю, як у Лімонава. Герой Кендэра усяк прыніжае жанчыну, з якой жыве. Ён увесь час б'е яе, адбірае грошы і машыну, у рэшце рэшт, яшчэ і гвалтуе разам са сваім сябрам, таму што нават прастытуткі адмаўляліся за грошы рабіць тое, што патрабавалі яго сябры.

Мяне не так трывожыць сама кніга Каура Кендэра, як папулярнасць усіх яго кніг у Эстоніі. Прычым папулярнасць не толькі ў абывацеля, але і ў крытыкаў. Між тым, Кендэра хваліў і сам Маці Унт (нельга ж зайздросціць поспеху новага багатага пісьменніка. Ці можна?) Маці Унт перакананы, што Кендэр свядома піша вульгарнай моваў, але ўсё роўна лічыць яго узровень дастаткова высокім. Я згодная з тым, што большая частка новай эстонскай прозы дастаткова вульгарная. І ў ёй сапраўды дастаткова высокі ўзровень: вульгарнасці, бесчалавечнасці, глупства, нікчэмнасці і абмежаванасці...

Калі б я ў дзяцінстве чытала Кендэра, Ыннепалу, Саутэра, я не ўзяла б у рукі больш ніводнай кнігі і ніколі б не захацела стаць пісьменнікам. Але, дзякаваць Богу, у нас дома была вялікая бібліятэка класікі — сусветнай і эстонскай. Мне было 10 гадоў, калі я прачытала ўсе творы эстонскага даваеннага класіка Антона Хансена Таммсаарэ, які вельмі паўплываў на мяне, не менш чым Дастаеўскі, які, між іншым, быў яго любімым пісьменнікам. Былі часы, калі эстонскія пісьменнікі не хаваючыся любілі рускіх класікаў. Былі часы, калі маленькія эстонцы хавалі рукапісы Аляксандра Салжаніцына, а Юры Лотман, Сяргей Даўлатаў маглі спакойна тут жыць і працаваць, і Міхаіл Велер (які стаў вядомым у Расіі) дагэтуль жыве ў Эстоніі і не збіраецца вяртацца на радзіму.

Але цяпер наступілі новыя часы, і таму робіцца зразумелым (пасля раманаў Кендэра, дзе ўсяк прыніжаецца эстонская жанчына), чаму многія эстонскія пісьменніцы так баяцца слова "феміністка", хоць пішуць як феміністкі. Аднак на гэтае слова ў Эстоніі — табу, таму што цяпер модная мужчынская лаянка. Чым больш вулічных, брыдкіх слоў, тым лепш, "вышэй" літаратурны ўзровень. Гэта даказваюць творы Каура Кендэра, Пеэтэра Саутэра і яшчэ шмат каго, каму спяваюць хвалу крытыкі. Ці думаюць так усе эстонскія чытачы — не ведаю, але ва ўсякім разе так сцвярджаюць тыя крытыкі, у руках якіх улада

і грошы. У нас у Эстоніі так званы культурны капітал найчасцей дае грошы менавіта тым аўтарам, якіх так утрапёна хваляць і падтрымліваюць крытыкі. У нейкім сэнсе гэта таксама спадчына савецкага часу, калі некаторыя словы былі забаронены. Але цяпер табу не толькі на слова "феміністка", рускіх вельмі раздражняе слова "акупацыя". Так, Эстонію сапраўды вызваліла савецкае войска ад фашыстаў, але пасля яно проста забылася сыйсці.

Савецкія бюракраты ненавідзелі ўсё тое, чаго не маглі зразумець. Яны не разумелі сучасных плыняў ні ў літаратуры, ні ў танцы, ні ў музыцы. У Эстоніі, вядома, было нашмат лягчэй, чым у Расіі. Мяне не выключылі з Тартускага універсітэта, калі я і мая танцавальная група выконвала сучасныя танцы пад музыку вядомых кампазітараў XX стагоддзя. Але маё "танцавальнае пытанне" усё ж абмяркоўвалася на партыйным сходзе універсітэцкіх камуністаў(нягледзячы на тое, што я як студэнтка партыйнай не была). Мне пашанцавала — мяне не арыштавалі і не паклалі ў псіхіятрычную бальніцу, як маладога расейскага мастака Міхаіла Шэмякіна толькі за тое, што ён любіў Ван Гога, як і я любіла, да прыкладу, музыку Пендэрэцкага і Арва Пярта. Менавіта гэта і была савецкая акупацыя як у Расіі, так і ў Эстоніі. Сучаснасць была злачынствам, чалавека-творцу маглі прынізіць і нават знішчыць. Ідэалогія патрабавалася нават у танцы.

Але мне усё роўна шкада рускіх, якія жывуць у Эстоніі, таму што для мяне гэта не руская акупацыя, а — савецкая. Я звязваю яе не з рускай, а менавіта з савецкай уладай.Пра гэта я напісала ў 1994 годзе ў сваім рамане "Свабода і каханне". Раман быў адразу ж выдадзены, але раптам высветлілася, што я стала ледзь не першай "дысідэнткай" вольнай Эстоніі, таму што паспрабавала зразумець тых рускіх, у каго муж або жонка іншай нацыянальнасці.

У маім рамане юная эстонская мастачка пакахала армянскага мастака, які жыве спачатку ў Маскве, а пасля ў Парыжы. Але паколькі гэты раман быў не толькі пра каханне, але і закранаў шмат нацыянальных праблем, мяне сталі вельмі моцна крытыкаваць. Але ж я як пісьменнік не магу не спачуваць жывым людзям і іх рэальным лёсам. Бо слова "феміністка" або "акупант" — усяго толькі словы, хай і абразлівыя. За гэтымі словамі — чалавечыя пакуты! І менавіта гэтага спачування мне і не прабачалі эстонскія крытыкі. Нібыта пакутаваць можа толькі сапраўдны эстонец, а не нейкая простая руская жанчына, якая выйшла замуж у Эстоніі і нарадзіла дзяцей, якія цяпер не маюць роўных правоў з эстонцамі. Для многіх эстонцаў гэтыя дзеці — дзеці акупантаў. Усё гэта сумна і парадаксальна, паколькі апроч акупантаў у Эстоніі былі і калабарацыяністы, якія дагэтуль жывуць вельмі добра. Многія былыя камуністы-эстонцы разбагацелі і засядаюць ва ўрадзе. Таму для такіх "былых" было вельмі важна, каб эстонскі народ верыў менавіта ў рускую, а не ў савецкую акупацыю. Калі ўсе рускія — акупанты, іх можна лаяць без пакутаў сумлення і не адчуваць да іх ніякага спачування. А справа куды больш складаная, чым здаецца на першы погляд. Нашы знакамітыя (у савецкія часы) пісьменнікі-апартуністы цяпер зусім кінулі пісаць. Крытыкаваць сябе — гэта вельмі складана! Але ж у савецкай Эстоніі нарадзілася цэлае пакаленне не толькі рускіх, але і эстонцаў! А важны не сам факт або дата нараджэння, а чым гэтыя людзі пасля займаліся?! Важная не нацыянальнасць, а тыя ўчынкі, якія кожны з нас здзейсніў або здзяйсняе. У савецкай Эстоніі можна было знішчыць больш таленавітых канкурэнтаў пры дапамозе "ідэалогіі", а можна было проста добра і сумленна працаваць і застацца чалавекам, не вышукваючы "антыкамуністычнага" ў паводзінах іншых людзей.

Усім грамадзянам даваеннай Эстоніі вядома, што абслугоўваючы персанал павінен быў ведаць тры мовы — эстонскую, рускую і нямецкую. Менавіта прадавец, а не кліент. Ніхто не патрабаваў, каб руская бабуля, што прыйшла за лекамі ў аптэку, размаўляла на эстонскай мове. Мараль і этыка пачынаецца з самага простага — з чалавечага спачування. Цяпер мы, эстонцы, — гаспадары, і мы павінны заставацца людзьмі ва ўсім. Я не згодная з тым, што трэба закрываць рускія школы. Нібыта ў нас мала неадукаваных малапетніх злачынцаў?

Мужчыны нярэдка больш жорсткія, але чым займаюцца эстонскія маці, як яны выхоўваюць сваіх дзяцей? Бо непавага да людзей іншых нацыянальнасцяў можа назаўжды сапсаваць характар і самога народа.

Але што робяць астатнія эстонскія пісьменніцы у той час, як у папулярнай "мужчынскай" прозе жанчыну б'юць, гвалтуюць і пагарджаюць ёю? Эстонскіх пісьменніц цяпер даволі шмат, але самыя лепшыя з іх — маўчаць або пішуць вельмі рэдка (як, да прыкладу, Віві Луйк). Цудоўны стыліст Аста Пылдмяе кіруе аддзелам прозы нашага самага старога і прэстыжнага літаратурнага часопіса "Looming" ("Творчасць"), але сама яна піша мала. Мне яна шчыра прызналася, што галоўны рэдактар (стары халасцяк) Уда Уйба часта не бярэ ад яе добрую жаночую прозу, якую яна яму рэкамендуе. Ён кажа, што не можа чытаць іх творы. Але для мяне Уда Уйба як творчы чалавек мала што значыць у параўнанні з Астай Пылдмяе — адной з лепшых эстонскіх пісьменніц. І ўсё ж "ідэалагічна" аказваецца правым Уда Уйба, як у старыя савецкія часы. Менавіта ён апублікаваў так званую "смелую" навэлу Пеэтэра Саутэра. Хоць гэтая "навэла" была толькі шэрагам брыдкіх слоў падчас Дня Незалежнасці.

Такія цікавыя пісьменніцы як Майму Берт, Айта Ківі, Кярт Хеллерма і іншыя занадта "старамодныя", каб скласці канкурэнцыю мужчынскай "літаратурнай лаянцы" і гвалту. І самае важнае, на мой погляд, тое, што ўсе яны баяцца абвінавачвання ў фемінізме. Баяцца альбо проста не ўмеюць пісаць пра тое, што сапраўды хвалюе усіх жанчын і ўсё грамадства. Многія праблемы — занадта асабістыя. Некаторыя пісьменніцы нібыта жывуць не на зямлі і не на эстонскай зямлі, таму што "чыстая" літаратура бяспечная для аўтара.

Можна таксама сказаць і пра тое, што, на жаль, сучасная вольная Эстонская Рэспубліка нашых пісьменнікаў або зусім не цікавіць, або цікавіць, але вельмі мала. Нашы класікі і некалі папулярныя пісьменнікі пішуць толькі пра мінулае або проста маўчаць. Новыя пісьменнікі толькі лаюцца ў літаратуры (паводзяць сябе як на базары) або проста хаваюцца за свае фантазіі, у якіх няма ні радзімы, ні Эстоніі, а толькі адны свае мары і так званая "чыстая" літаратура. "Чыстая"? Але ад чаго? Ад жыцця? Або ад мастацтва? Ад значнасці? Вялікая або нікчэмная?

Вядома, ёсць яшчэ дзіцячая і юнацкая літаратура, дзе непрыхаваная лаянка проста немагчымая. Яе нельга назваць "моднай", паколькі Эстонія хоча ўсё ж зрабіцца нармальнай Еўрапейскай краінай, а не выхоўваць крымінальныя элементы на дзяржаўным узроўні.

Але ўсё ж такая "мода" ўплывае нават на дзіцячую літаратуру. У 2000 годзе галоўную прэмію сярод раманаў для падлеткаў атрымала маладая пісьменніца Айдзі Валлік (1971 года нараджэння). Яе раман "Як жывеш, Ані?" пра тое, як выдатніца з добрай сям'і знайшла дзённік сваёй маці, яе пацягнула на вуліцу і, у рэшце рэшт, яна збегла з дому. На апошніх старонках рамана — мараль (як і павінна быць у маладзёжным рамане) пра тое, што нельга п'янстваваць. Але дзённік маці — сабранне ўсялякай мярзоты; і жыццё яе дачкі пасля ўцёкаў з дому таксама не лепшае. Уражанне ад рамана самае негатыўнае. І для мяне малапераканаўчыя апошнія старонкі, на якіх гаворыцца, што так жыць не трэба. Гэта пустыя словы, асабліва пасля прачытання дзённікаў, напісаных у стылі Каура Кендэра.

Тады амаль уся эстонская проза пра тое, як "не трэба"! А як "трэба"? Бо ва ўсе часы чытачы любяць класікаў за тое, што тыя хацелі зразумець: "як трэба?" Дастаеўскі нават выдумаў князя Мышкіна як "юродзівага дабрыні". У нашай літаратуры, на жаль, такіх "ідыётаў" няма, усе вельмі "разумныя". Але самая галоўная прыкмета "розуму" — нянавісць і пагарда да іншых людзей. Новых ідалаў няма, герояў таксама няма, ёсць толькі антыгероі.

У 2000 годзе праходзіў іншы конкурс — конкурс сучаснага рамана Як можна было і прадбачыць — перамаглі гістарычныя раманы. Але я ўсё ж рада, што журы, у якім былі нашы лепшыя пісьменнікі, ацаніла і мой новы раман "Месяц і ліхтар", які пабачыў свет у 2002 годзе. У гэтым рамане ізноў уздымаецца вострая тэма-табу — як жывуць разам эстонцы і рускія ў тым гарадскім раёне нашай сталіцы, які многія эстонцы называюць "рускае гета" і заклікаюць знішчыць, паколькі ён — ганьба для сталіцы. Менавіта там жывуць многія простыя людзі без эстонскага пашпарта і грамадзянства. Яны часта наведваюць Маскву, таму што палова сям"і жыве там, а палова ў Эстоніі.

На жаль, цяпер можна гаварыць пра тое, што "спяваючая рэвалюцыя" зрабіла Эстонію больш "спяваючай" краінай, чым "мыслячай" і "самакрытычнай". Але духоўна — гэта краіна "новых банкіраў", якія цяпер верхаводзяць у Эстоніі і ганарацца тым, што прачыталі ў сваім жыцці не больш як восем кніг. Некалі яны чыталі, а цяпер часу зусім няма, а самая любімая кніга — А.Дзюма "Тры мушкецёры", але гэта ўсё ж дзіцячая кніга.

Недарма у 1995 годзе пісьменнік Тээт Каллас напісаў свой раман пра сучасную гісторыю з сумным назовам "Бывай, Шэкспір!" У гэтым рамане тоне карабель з усімі эстонскімі пісьменнікамі. Тээт Каллас таксама стаў больш выступаць з артыкуламі на старонках газет, гэта значыць, стаў журналістам, як і Міхкель Муцць. Жыць жа трэба. А на тых ганарары, якія атрымліваюць пісьменнікі, можна толькі існаваць.

Цяпер выдаецца вельмі шмат кніг маладых аўтараў. І стаць пісьменнікам можна куды прасцей, чым раней, у савецкай Эстоніі. Але амаль усе пішуць "ні пра што", знакамітасцю стала студэнтка, якая апісала свае "сексуальныя паходжанні", ды і толькі!

Няма кніг пра галоўнае і важнае. Няма кніг, якія аб'ядналі б усіх эстонцаў, як аб'ядноўвала ў свой час апартуністычная літаратура. Цяпер сярод пісьменнікаў вялікіх апартуністаў няма. Нібыта жыццё складанае і цяжкое, нібыта і пісаць ёсць пра што! Але не пішацца! На мой погляд, гэта самы вялікі недахоп нашай літаратуры, а магчыма, і трагедыя нашых пісьменнікаў. Міхаіл Булгакаў напісаў свайго "Майстра і Маргарыту" ў цяжкія і трагічныя гады савецкага часу. У сучаснай эстонскай прозе цяпер трыумфуе ідал "вялікай нікчэмнасці". Ці не трагедыя гэта для эстонскай культуры? Застаецца толькі спадзявацца, што ў гэты самы час нехта (як Міхаіл Булгакаў) таемна піша свой бессмяротны раман. Піша шчыра, са спачуваннем і болем. Піша пра самае галоўнае — пра сваё жыццё і пра жыццё свайго народа.

Пераклаў Л. Г.


Пюхцінскі манастыр (Эстонія). Фота Ксені ГАЛУБОВІЧ.

## ЗАХАРАВА, 19




## РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***

***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***

***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.**


# СВЯТА Ў СЛУЦКУ

12 чэрвеня ў бібліятэцы-філіяле № 1 г. Слуцка, што месціцца ў Палацы моладзі, адбылося паэтычнае свята. Па запрашэнні гаспадароў з Мінска да вучняў і настаўнікаў мясцовай СШ № 2 і чытачоў бібліятэкі прыехаў пісьменнік, старшыня секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман" Міхась Пазнякоў. У зале была наладжана выстаўка ягоных кніжак. Уступным паэтычным словам свята адкрыла і вяла на працягу амаль трох гадзін загадчыца бібліятэкі гасцінная і клапатлівая Галіна Васільеўна Сасіновіч. Безумоўна, галоўным героем мерапрыемства быў сталічны госць. Ён шмат расказваў пра сябе і літаратуру, пра літаратурна-мастацкія выданні і творчы працэс, адказваў на шматлікія самыя розныя пытанні. І, вядома, чытаў свае вершы. Слухачы прадэманстравалі паэту, што ведаюць многія яго творы, прачытаўшы асобныя з іх напамяць. Была праведзена таксама віктарына па загадках М. Пазнякова. Кожны, хто даў правільную адгадку, атрымаў у падарунак ад аўтара кніжку або часопіс. Прайшла і своеасаблівая прэзентацыя новых кніжак Міхася Пазнякова "Азбука", "Загадкі з поля і градкі" і "Забаўная азбука".

Бібліятэка праводзіць значную літаратурна-асветніцкую работу, у якой нярэдка ўдзельнічаюць і пісьменнікі. Цяпер тут рыхтуюцца сустракаць свайго земляка — старшыню Саюза беларускіх пісьменнікаў Алеся Пашкевіча. Спадзяюцца на хуткую сустрэчу і яшчэ з адным знакамітым случаком — пісьменнікам Алесем Жуком.

П. МІХАЙЛАЎ

# «ВЫБРАНАЕ» ФАДЗЕЯ БУЛГАРЫНА

***На паліцах кнігарань — цікавая навінка: аднатомнік выбраных твораў ураджэнца Уздзеншчыны Фадзея Булгарына. Кніга выйшла ў залатой кніжнай серыі — "Беларускі кнігазбор".***

**У гісторыі рускай літаратуры Фадзей Булгарын малюецца звычайна чорнай фарбай. Быў верны рускаму царызму, выступаў з крытыкай прагрэсіўных дзеячаў культуры, знакамітых рускіх пісьменнікаў, супрацоўнічаў з вядомым III Аддзяленнем царскай канцылярыі, куды накіроўваў розныя "аналітычныя запіскі". Ф. Булгарын быў аб'ектам з'едлівых эпіграм А. Пушкіна, П. Вяземскага, М. Някрасава і многіх іншых рускіх паэтаў. Сатырычны вобраз "рэдактара ўсіх газет" намаляваны і ў славутай беларускай паэме "Тарас на Парнасе".**

**У апошні час рускія знаўцы літаратуры імкнуцца больш аб'ектыўна глянуць на грамадскую дзейнасць і літаратурную творчасць. Сучасная даследчыца творчасці Ф. Булгарына Н. Львова ва ўступным артыкуле да кнігі яго выбраных твораў, што выйшла ў 1990 годзе ў маскоўскім выдавецтве "Современник", адзначыла станоўчыя моманты ў творчай біяграфіі пісьменніка. Яна паказала яго немалаважную ролю ў станаўленні і развіцці рускай літаратуры, прывёўшы пахвальныя выказванні пра Ф. Булгарына рускіх пісьменнікаў, у прыватнасці В. Бялінскага, які называў яго "бацькам рускага рамана". Львова прыйшла да такой высновы: "Фадзей Венедзіктавіч Булгарын ніколі не быў агентам III Аддзялення. Калі нарадзілася гэтая плётка, ужо ніхто не помніць".**

**Убачыць сапраўднага, а не карыкатурнага Ф. Булгарына, цвяроза ацаніць яго творчасць, пазнаёміцца з яго ідэйнымі, эстэтычнымі і маральна-этычнымі перакананнямі беларускаму чытачу дапаможа аднатомнік выбраных твораў гэтай неардынарнай і неадназначнай постаці ў літаратуры.**

**Чым цікавы Ф. Булгарын для нас, беларусаў?**

**Найперш тым, што ў сваёй творчасці ён, хоць і стаў "адшчапенцам", расказаў пра сваю радзіму — Беларусь, пра найменш асветлены ў пісьменстве перыяд — пачатак і першую палову XIX стагоддзя, калі ўласна беларуская літаратура ў выніку вельмі неспрыяльных для яе ўмоў па сутнасці маўчала. Асабліва шмат цікавых рэалій з жыцця і гісторыі Беларусі знойдзе чытач у змешчаных у аднатомніку "Успамінаў" Ф. Булгарына, што прыпадаюць на яго дзяцінства, у "Дарожных нататках з Дэрпта ў Беларусь і назад вясной 1835 года", у раздзелах самага значнага твора пісьменніка — рамана "Іван Выжыгін", у артыкулах і лістах.**

**Не менш цікава будзе даведацца пра беларуска-рускія літаратурныя ўзаемадачыненні першай паловы XIX ст., пра ўдзел у грамадскім жыцці Расіі выхадцаў з Беларусі — такіх жа, як і Булгарын, "літвінаў" Ф. Малеўскага, В. Пшэцлаўскага, М. Маліноўскага, В. Сянкоўскага ("Барона Брамбеуса"), А. Міцкевіча, А. Г. Кіркора і інш. Многія з іх, у тым ліку Булгарын, прычыніліся да стварэння рускай незалежнай прэсы.**

**Вельмі цеснае сяброўства было ў Ф. Булгарына з вядомым рускім пісьменнікам А. Грыбаедавым. Якраз у булгарынскім часопісе "Руская Талія" чытач упершыню пазнаёміўся са славутай камедыяй "Горе от ума". У кнізе друкуюцца вельмі цікавыя "Успаміны пра незабыўнага Аляксандра Сяргеевіча Грыбаедава". Тут жа ўспаміны пра Карамзіна "Сустрэча з Карамзіным", а нарыс пра жонку Дзмітрыя Самазванца — "Марына Мнішэк".**

**Як прадстаўнік беларускай апалячанай шляхты, якая марыла пра аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай, Ф. Булгарын удзельнічаў у паходзе Напалеона Банапарта на Маскву ў 1812 годзе. У кнізе даюцца ўспаміны Булгарына пра яго сустрэчу з Напалеонам, асабістым распараджэннем якога ён быў надзелены чынам капітана. Добра дапаўняюць успаміны Ф. Булгарына і яго лісты да І. Лялевеля, А. Пушкіна, В. Ушакова, М. Палявога, Т. Нарбута, А. Г. Кіркора, Ф. Малеўскага і інш.**

**Кнігу "Выбранае" Фадзея Булгарына склаў і пракаментаваў Аляксандр Фядута. Ён жа — аўтар грунтоўнага ўступнага артыкула.**

**У кнізе чытач знойдзе таксама рэдкія фотаздымкі, якія дапамагаюць раскрыць вобраз гэтай неадназначнай і неардынарнай асобы ў літаратуры.**

**Ніна КУДРЭЙКА**

ДРУГОЕ ПРАЧЫТАННЕ

# ВЯРНУЦЦА Ў СЯРЭДЗІНУ

*У самых тлумных месцах*
*нашэптваю вершы*
**А.Аркуш**

Адна справа, сесці ў калюжыну ці ўзняцца пад аблокі, чытаючы першы вершаваны зборнічак невядомага маладзёна, і зусім іншая — шукаць невядомае ў пятай ці шостай кніжцы ўжо даўно знаёмага табе паэта...

*у новым стагодзьдзі*
*плянуеш пачаць новае жыцьцё*
*ды раптам высьвятляецца*
*пражытых гадоў*
*немагчыма пазбыцца*

Ці не таму Андрэй Хадановіч у "Нашай Ніве", рэцэнзуючы зборнік Алеся Аркуша "Проста ў сярэдзіну", адкуль я працытаваў вышэй выдрукаваныя радкі, больш "абазначыў" на публіку свой "выкшталцоны" стыль, шырокі інтэлект ды ўласны літаратурны талент, чым паказаў паспалітаму чытачу на творчыя набыткі альбо няўдачы самога аўтара (*"усё ў гэтых вершах проста і стабільна"* — і гэта пра паэзію?!). Хоць, шчыра кажучы, іншым разам цікавей чытаць выбітны літаратурны тэкст вакол пэўнай выдатны прыклад — творчасць шырокавядомага сёння паэта Алеся Разанава, які сцвердзіў сваю паэтычную самасць дэбютнымі лімаўскімі публікацыямі і двума першымі вершаванымі зборнікамі, напісанымі абсалютна ў традыцыйным класічным стылі. І такіх прыкладаў мноства, як у айчынным, так і ў замежным красным пісьменстве.

*А шлях раўнюткі, быццам лісцік,*
*ляці — каб вецер у вушах!..*
*Як гэта лёгка памыліцца*
*і па чужых пайсці шляхах.*

Хоць напрыканцы свайго, бадай, самага маладога і сталага, верша ("Пошук", 1964г.) Алесь Разанаў не забывае дадаць галоўнае: "Але чакай, няўмольны час:// я маю права ўсё закрэсліць// і потым нанава пачаць"...

Безумоўна, што пасля падобнага самасцвярджэння ў літаратуры, не грэх паэту паспрабаваць заняцца фармальнымі пошукамі, чыстым мыслярствам і цікавымі стылістычнымі альбо лінгвістычнымі выкрунтасамі — выхадніцтвамі...

Вось дзве, як мне падаецца, тэматычна блізкія цытаты з вершаў Алеся Аркуша. Першая — з кніжкі "Проста ў сярэдзіну"(2001г.):

*прачнуліся птушкі — а дзень*
*ужо скончыўся*
*пець пачалі — сонца клікаць*
*сонца пабудзілі, ды самі стаміліся*
*сон змарыў — дзе сядзелі там*
*і паснулі*
*а тая што ў палёце была*
*зоркай зазьзяла — вечарніцай*

А другая — з першага маладосцеўскага зборнічка "Вяртанне"(1988г.):

*Я за аблокамі сачыў*
*І кожнаму даваў найменне.*
*Цвяліў вятрыска далячынь —*
*Імёнаў паскараў знікненне.*
*/......................../*
*Імёны нішчыў ён, але*
*У небе ўбачыў я аблокі.*
*І як вятрыска ні шалеў,*
*Яны трымалі дух высокі.*

Не буду тут даказваць ці аспрэчваць відавочнае. Хто разумее паэзію, таму нічога тлумачыць не трэба.

А вось Алесь Аркуш, як бы ў апраўданне змысленасці большыні сваіх сённяшніх вершаў, "ўхапіўся" тут за вядомага ў вузкалітаратурных колах руска-чувашскага паэта Генадзя Айгі. Гэта, на мой погляд, прыдуманы еўрапейскай багемай знакавы матэматычна-моўны паэт-авангардыст, у нечым сімвалічна адпаведны мастаку Малевічу з яго "растыражаваным" "Чорным квадратам"... Іншым разам, з чыста літаратурных патрэбаў, я таксама зазіраю ў яго выбранае 1992 года. *Нічога не сказаўшы, нешта сказаць* — гэта і ёсць неардынарная (намёка-доследная) стылістыка паэтычнага пісьма і літаратурнага мыслення "абсалютнага паэта" альбо "Малармэ з Волгі", як яго называе адзін з замежных літаратурных знаёмцаў. Вось поўная цытацыя аднаго з яго вершаў (ужо каторы раз прашу прабачэння за рускую мову ў А.Хадановіча, але ж няхай бы пераклаў ён і гэтую руска-чувашскую класіку):

**СТРАНИЧКА С ПРИЗНАНИЕМ**

*было: в лицо Простоте попытался*
*взглянуть я однажды*
*понял одно: что лишился я Слова*
*как зренья*

Цытую найлепшае. І яно, спадзяюся, вартае таго. Не забудзем, што Айгі, як казаў Горкі пра Ясеніна, "ёсць органам паэзіі", і якраз той яе фармальнай плыні, якую і жыццём сваім, і словам выяўляе...

Аднак асабістае знаёмства Аркуша з Айгі абсалютна нічога не дадае самому нашаму вершатворцу. Бо немагчыма схавацца ў еўра-азіяцкай "сярэдзіне" Айгі, будучы прыпісаным да свайго траклятага, а мажліва, й вечнага паўночна-заходняга краю Купалы, Коласа й Багдановіча...

*Нават вырваўшыся ў Парыж, ад сябе не ўцячэш...*

І мне абсалютна не верыцца, калі паэт кажа, што той самы "нямоглы Парыж цярпліва чакае маіх вершаў"... Наўрад ці... Сёння не чакае ён вершаў нават ад сваіх сучасных паэтаў, больш за тое, паступова забывае, прапыленую ў бібліятэках і сховішчах, цудоўную паэзію сваіх сусветна вядомых класікаў... На жаль... Зрэшты, ці не тое ж і ў нас?..

Як гэта ні ганебна для чалавецтва, але настае час не проста сярмяжнай, а "варварскай прозы" трэцяга тысячагоддзя.

Не, не... Не хачу я сказаць, што ў зборніку паэта няма адметных вершаў ці хоць бы выбітных літаратурных тэкстаў. Іх, як для невялікай вершаванай кніжачкі, дастаткова.

вецкай з'явы, чым "сузіраць" самую з'яву... Але гэта ўжо скрайні выпадак.

У выпадку ж з Алесем Аркушам хацелася б быць сур'ёзным і ў меру аб'ектыўным. Яго творчая праца ў беларускай літаратуры на працягу пятнаццаці апошніх гадоў мае права на сваё плённае мастацкае вызнаэнне. І я ўжо не першы раз гавару яму пра даўно наспелую неабходнасць карэкціроўкі абранага ім паэтычнага шляху. На мой суб'ектыўны погляд, *яго месца* так пакуль і застаецца вакантным у нішы нашай традыцыйнай нацыянальнай паэзіі. І ў тым не трэба бачыць аніякай літаратурнай абразы альбо "зніжэння творчых акцэнтаў". Бо ў традыцыйнай беларускай паэзіі яшчэ ляжыць нечапаным вельмі глыбокі пласт нераспрацаванай нацыянальнай цаліны, як тэматычна, так і фармальна... У Алеся ж Аркуша — стылёва-прыхаванае вобразна-метафарычнае беларускае мысленне, а не заходняе досведна-галаўное стылістычнае канструяванне (хутчэй — непрадказальная стыхія, чым "прагноз надвор'я на заўтра")...

Адназначна, што пошук сябе і свайго ў айчыннай літаратуры занадта зацягнуўся ў нашага аўтара. Можна пунктырна пазначыць некаторыя яго найбольш выразныя этапы: пераезд на жыхарства з Жодзіна ў Полацк, непрыманне паэта з-за амбітнасці некаторых "літрамэтраў" у Саюз пісьменнікаў, стварэнне Таварыства вольных літаратараў у супрацьвагу гэтаму, актыўная грамадзянская дзейнасць па адраджэнні беларушчыны і адстойванні незалежнасці РБ, заснаванне выдавецтва "Полацкае ляда" і выданне шматлікіх зборнікаў афіцыйна непрызнаных беларускіх паэтаў, заснаванне літаратурнай незалежнай прэміі "Гліняны Вялес", выпуск і рэдагаванне часопіса "Калосьсе" і рэгіянальнага альманаха "Правінцыя", актыўная літаратурная праца на радыё "Балтыйскія хвалі", творчая праца на ўласнай літаратурнай ніве...

Аднак вернемся да традыцыі. Не ў тым спрошчаным фальклорным яе разуменні, а да традыцыі, як да ўкамянелага родавага фундамента, што забяспечвае ўстойлівасць і даўгавечнасць усякага чалавечага, у тым ліку і духоўнага, збудавання. Да таго ж, не будзем забываць, што мера глыбіні і значнасці кожнага таленту вызначаецца, як правіла, па класічных і ўжо засвоеных чалавецтвам мастацкіх канонах. Самы відоч-




Бадай, роўна столькі ж, колькі прахадных і проста не надта ўдалых...

Своеасаблівая паэтычная аўра захоўваецца аўтарам ад першай да апошняй старонкі, не зважаючы на візуальныя і мусова прыцягнутыя літаратурныя аздобы, прыўнесеныя рукой прафесіянала-версіфікатара і ўжо дастаткова вопытнага майстра выдавецкай справы.

Скажам, як вам гэтае арыгінальнае трохрадкоўе:

*Кажан да скуры*
*працёр свае крылы*
*нацiраючы поўню*

І ў працяг працытаванага:

*Для глуханямой поўні*
*пальцам па шыбіне*
*выводжу словы*

Вельмі трапнае выказванне, якое ўскосна пацвярджае мае папярэднія высновы адносна асірацеласці паэтычнага слова.

Трэба аддаць належнае і сучаснаму вострама светаўспрыманню Алеся Аркуша, яго "авангардна-метафарычнаму" прадбачанню будучага. Не заўсёды аптымістычнаму, але заўжды верагоднаму... Тады, як большасць паэтаў-СБПэшнікаў таўчэ даўно ператоўчаны мак у сваёй айчыннай вершаванай ступе, ён намагаецца папярэдзіць незваротныя наступствы ў развіцці сучаснага літаратурнага працэсу:

*Вершы гэтак жа небяспечныя*
*як опіюм — чытаю ў чарговым*
*загадзе —*
*і той хто піша*
*і той хто чытае*
*і той хто толькі захоўвае вершы —*
*дзяржаўны злачынца*
*Шукаюць вершы ў маім стале*
*маім кампутары маім нататніку*
*маёй галаве маіх начных трызненнях*
*а калі знаходзяць топчуць*
*як кветкі маку*

*у самых глухіх куточках расьце мак*
*у самых тлумных месцах нашэптваю*
*вершы*

Зрэшты, час ад часу, надараецца ў Алеся Аркуша і аптымістычны погляд на наш будзённа-празаічны і данельга затурканы суверэнны свет з вышыні "сваёй полацкай старабытнасці":

*Калі прыйшла зіма*
*і выпаў сьнег*
*я ўбачыў вакол сваёй хаты*
*процьму сьлядоў*

*дзіва*
*а я думаў*
*што мой хутар*
*бязьлюдная выспа*

Так, так, нас яшчэ многа і гэта радуе. Вось толькі ці ўсе мы з аднаго поля, ці ўсе з тых хат, у якія нам трэба вярнуцца? Я маю на ўвазе не саламяныя стрэхі і не запечныя думы, а штодзённую рату і высакосныя словы...

*На беразе вечнага часу,*
*Дзе робяцца друзам выгоды,*
*З апошняга хлеба запасу*
*Ты корміш птушку Свабоды.*

Ну, вось дайшоў і я да нашай спрадвечнай "птушынай тэмы", на якой нагрэў сваё ўвішнае і віжаватае пяро Андрэй Хадановіч. Што праўда — то гэта не тэматыка для сучаснай канструктывісцкай паэзіі, тым больш, калі тая паэзія, як любяць здзекліва шуткаваць некаторыя СБПэшнікі, "эўрапэйскага ўзроўню"...

Але нават сама прысутнасць гэтай "старой" тэмы ў новым зборніку паэта робіць мае настойлівыя "адсылы" Алеся Аркуша да нашай традыцыйнай паэтычнай школы небеспадставымі. Тым больш, што заклікаю я аўтара не перапімаць тую традыцыю наўпрост, як тое робіць процьма нашых вершапісцаў, а ўсяго толькі цвёрда ўстаць на яе, ужо ўпомнены мною вышэй, фундамент, прасцей кажучы, не адрывацца ад жыццесцвярджальнай пупавіны духоўна-родавых асноў... Стаць на той фундамент, як на бетонную пляцоўку ракетнай шахты, з якой "усе мы разам ляцім да зор"...

Стоп, стоп! Адчуваю, пайшоў "высокі штыль" і постсавецкая пафаснасць забівае мне дых. Патрабуецца паўза...

Мабыць, гэтак, з пярэдыхамі, напрадвесні з цёплага еўрапейскага Поўдня ў каторы раз мкне ў свае схаладзелыя, але родныя гнёзды птушыны вырай. Так пульсуе ў чалавечым целе няспынны кровазварот. Так пачалося і працягваецца наша *вяртанне* — з лона чалавечага граху ў лона зямнога праху... І ўсё толькі дзеля таго, каб ні на хвілю не спыняць ход жыцця ў сутонным мроіве вечнасці...

Каб урэшце пакінуць нашчадкам свой часовы надпіс:

*Слава тым, хто трымае гняздо,*
*Хто ўнікае зязюльчынай долі,*
*Хто з галінак складае свой дом,*
*Хто ня схібіць у справах ніколі.*

*Гэты мудры, стары запавет*
*З малаком мы ўсмакталі аднойчы.*
*І на гэтым стаяцьме наш сьвет*
*І глядзець нам ня сорамна ў Вочы.*

Так і "юдзіць" мне, як кажуць у маёй вёсцы, уставіць у апошнім вершаваным радку "паміж Вачыма і кропкай" слова "чытачу": *"І глядзець нам ня сорамна ў Вочы"* чытачу...

Ва ўсякім разе яно не выбівалася б з аўтарскага паэтычнага кантэксту, было б да месца і ўвогуле надавала б нашай гаворцы завершанасць і справядлівасць.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**УРАЖАННЕ**

# З КРАІНЫ МАЛЕНСТВА

Хутка, вельмі хутка ляціць час. Здаецца толькі што пазнаёміўся ўпершыню з Галінай Дашкевіч, Галінай Мікалаеўнай Дашкевіч, а мінула вунь колькі гадоў. Дзе яны засталіся, тыя непаўторныя аспіранцкія дні? Далёка не ўсё выплывае з-за смугі даўнасці. Успаміны вяртаюцца неяк нечакана, знячэўку, выклікаными выпадковымі сустрэчамі ці... выдадзенымі кнігамі. Так, кнігамі, бо вучыліся мы тады разам у аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Убачыўшы яе вершаваны зборнік для дзяцей "Паўлік кніжачку чытае" і — адразу падумаў: "Вось і ў Галіны ўнукі падрастаюць..." Сапраўды, у душу і ў галаву ўбілася жыццёвае — распавядае пра сваіх гарэзаў, якія не даюць спакойна пасядзець — папрацаваць за пісьмовым сталом. Неяк пачало прыгадвацца і тое, як заўсёды пяшчотна і замілавана яна распавядала пра дзяцей, якія падчас вучобы заставаліся ў Мазыры. Здзіўляла майстэрства апавядальніцы. Таму, калі прачытаў першыя радкі, дык нібыта вярнуўся ў аспіранцкі інтэрнат, што знаходзіўся на вуліцы Скарыны (тады Акадэмічнай), апынуўся сярод сяброў, якія дзеляцца ўражаннямі ад прачытаных твораў, уплятаючы ў гэта нешта з будзённасці і абавязкова, не распавядаючы пра творчыя планы, каб ненарокам не "запазычылі" ідэю, сюжэт або не перагналі з абаронай кандыдацкай дысертацыі. Гэты дух спаборніцтва, у станоўчым сэнсе слова, заўсёды надзвычай дапамагаў нам. Дапамагае і зараз. І вось тады мы, намнога маладзейшыя, вярталіся ў думках у дзяцінства, няхай сабе было яно цяжкім, не надта сытым, але гэта былі часіны маленства. Калі стаў чытаць зборнік, то адразу, нібы ў якой казцы, замільгацелі перад вачыма сцэны з уласнага жыцця, але абудзілі іх радкі Г. Дашкевіч.

*Справа важная такая —*
*Паўлік кніжачку чытае.*
*Ночка ў вокны пазірае,*
*Змоўклі гуслі — самаграі.*
*Дамавік сядзіць на печы,*
*Ціха лапці падпляце*
*І гаворыць: — Як дарэчы*
*Паўлік кніжачку чытае! (с. 5)*

З той хіба што розніцай, што ў нашай вясковай хаціне дамавік сядзеў пад печчу ды займаўся там сваімі адвечнымі справамі, а на печы раскашавалі дзед з катом. І адтуль пастаянна нёсся храп, які супакойваў мяне, малога, што, маўляў, не бойся, няма чаго! Ты ж у хаце не адзін. Такая дапамога, калі што, прыскочыць — дзед ды кот!

Кожны чалавек, вядома ж, у такіх успамінах на першае месца ставіць Маму. Яна з'яўлялася і з'яўляецца той душэўнай раўнавагай, якая надзвычай дапамагала ў жыццёваскладаных сітуацыях. Якім бы ты не быў — сталым ці зусім малым, а яе воблік пастаянна знаходзіцца перад вачыма, у памяці, выклікае глыбінныя асацыяцыі з нечым адвечна добрым і пяшчотным, ласкавым і радасным. Не адыходзіць ад гэтых традыцыйных разважанняў і Г. Дашкевіч, калі падкрэслівае:

*Яна, нібы яснае сонейка,*
*Што ззяе над роднай зямлёй.*
*Прашу я ў Бога здароўечка*
*Для мамачкі любай маёй.*

Не сакрэт, што многіх з нас у маленстве гадавалі не мамы, бо не было ім калі, спяшаліся на працу, каб даглядзецца па гаспадарцы, шчыраваць на калгасных палях ці на прадпрыемствах, вучыць больш дарослых у школках ды інстытутах і г.д. Таму пакідалі малых на тых, хто знаходзіўся ўжо на заслужаным адпачынку, як мы згадвалі, на дзядуляў ці на бабулек. Вось і ў паэткі знайшлося колькі цёплых словаў, каб прыгадаць бабуліну шчырасць, вытрымку, (а як жа без яе пры малых!), спагаду:

*У бабулiных вачах*
*Знікнуць аблачынкі,*
*Як пралескі у гаях,*
*Расцвітуць смяшынкі (С. 11)*

Аўтарка зборніка імкнецца распавесці, а дакладней, мабыць, прывіць тым, каму адрасуе свае вершы, любоў да ўсяго беларускага. Дзе ж яшчэ можна адчуць такое замілаванне прыродай, як не на абшарах нашай "Швейцарыі" - Мазыршчыне ці на Палессі ўвогуле? Там, у роднай старонцы, Галіна Мікалаеўна ведае кожную сцяжынку, кожную ручаінку. Здаецца, што яны з ёю дзеляцца самымі патаемнымі думкамі, якія пераасэнсоўваюцца, становяцца зразумелымі нават малым чытачам. Дасягаецца гэта, у першую чаргу, пры дапамозе таго, што ў вершах згадваюцца знаёмыя любому з дзяцей персанажы: каляровы матылёчак, чародка вераб'ёў, папугайчык, мышка з коцікам, зайка-казачнік і многія іншыя. Таму і будзе ўспрымацца малымі ўсё, як самае сапраўднае, існуючае ў рэальнасці.

*Мушка грае на цымбалах,*
*А камарык на дудзе.*
*І ў куточку на ваконцы*
*Павучок струну прадзе.*
*Ім цвіркун дапамагае,*
*На канцэрт дзяцей склікае.*
*Два маленькія жучкі*
*Узяліся за бачкі,*
*Польку-Янку станцавалі —*
*Вось канцэрт у нас які! (С. 29)*

Праўда, многае пададзена ў чыста казачным плане, яно і зразумела, бо ж пісалася для дзяцей. А хто ж з іх не любіў гэты жанр фальклору ці літаратуры? Не адыходзіць ад заведзенай традыцыі і Г. Дашкевіч. Мала гэтага, у яе казачнікам становіцца... зайка. Той самы, палахлівы, шэранькі, касавокі. Пададзены ён у ролі носьбіта ўсяго мудрага, жыццёва-практычнага, якое неабходна перадаць іншым, бо гэта спрадвечны закон жыцця. У казцы могуць сябраваць нават тыя, хто ў прыродзе заўсёды выступаюць як ворагі ці непрымірымыя сапернікі. Напрыклад, зайка і... ліса.

Ходзіць Зайка, — **(А. Н.)**, просіць: "Цёця Ліска,

*У цябе тых казак нізка,*
*Пачынай і раскажы,*
*Буду я з табой дружыць,*
*Тваіх дзетак-лісянятак*
*Буду моркваю карміць.*
*Буду песні ім спяваць,*
*З імі ў хованкі гуляць". (С.30)*

Даносіць у сваіх вершах да малых Галіна Мікалаеўна і подых тых часоў, калі прыродная стыхія, яе праявы, абагаўляліся нашымі продкамі, выступалі нібы ўсё магутныя жывыя істоты. Іх нельга было крыўдзіць, нават у думках, пра іх нельга было дрэнна думаць, глядзець спадылба, бо велічныя постаці язычніцкіх багоў маглі пакараць, прымусіць выконваць тое, што прыйшло з сівых стагоддзяў, сілаю, раз не даходзіла пры дапамозе слова. Аўтарка цярпліва тлумачыць чытачам, хто такія дзед Пярун ды дзед Мароз. Чаго іх баяліся, чаму ім пакланяліся, прыносілі ахвяры. Так ёй самой некалі распавядалі старэйшыя, так зараз даводзіць і яна.

*Ніткаю чырвонаю маланка*
*Вышывае неба сення зранку.*
*Лівень дзед Пярун праліў*
*з вядзерца.*
*Гром грыміць! Як моцна б'ецца*
*сэрца!*
*Гэта навальніца, як царыца,*
*Едзе ў запачонай калясніцы.*
*(С. 14)*

Не забываецца Г. Дашкевіч падкрэсліць і тое, што галоўнае прызначэнне чалавека на зямлі — рабіць дабро. І рабіць яго трэба заўсёды. Каб не патыхала злосцю, зайздрасцю, нядобразычлівасцю, а, наадварот, вочы заўсёды свяціліся радасцю і гатоўнасцю дапамагчы, а рукі здзяйснялі гэта кожны дзень. Няхай сабе дабрыня гэтая, дапамога была не такая ўжо і значная (на першы погляд), але ж яна пастаянна павялічвалася.

*Як шкада — дарунак снежны*
*Мяккі, пульхны, ды не ежа.*
*Памірылі дзеці птушак,*
*Нарабілі ім кармушак.*
*Сыплюць крупы ім і крошкі,*
*Каб дужэлі крыльцы, ножкі.*
*Вераб'і і снегіры*
*Рады — ёсць у іх сябры. (С.21)*

Але ж маленства адыходзіць даволі хутка, калі браць у памерах чалавечага жыцця, то імгненна. І заканчваецца яно, як сумна піша Галіна Мікалаеўна, першым верасня першакласніка. Менавіта з гэтай даты пачынаецца адлік новага этапу, а можна сказаць, што і перыяду станаўлення асобы.

*Не трывожся, мама,*
*Не трывожся, тата,*
*Наша школа свеціцца дабром.*
*Першага верасня, першага*
*верасня —*
*Падарунак восені залаты.*
*Дзеткам радасна, дзеткам*
*весела*
*Бачыць твар настаўніцы малады.*
*(С. 17)*

Дапісваю гэтую невялікую рэцэнзію-водклік на цудоўны падарунак для дзяцей — кнігу Галіны Дашкевіч, а за вакном вечар. Глыбокі зімовы вечар. Прымроілася нават, што недзе далёка-далёка, у цёплай, утульнай хаціны, маладая матуля чытае-прамаўляе над калыскаю, дзе пакрэхтвае незадаволена яе надзея:

*Спі, мой сыночак,*
*Спі, мой саколік,*
*Ветрык насыпле званочкаў*
*Нам у прыполік. (С. 42)*

І сон, усёадольваючы сон, пачынае валадарыць у краіне маленства, хораша намаляванай паэткай.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ**

---

[1] Г. Дашкевіч. "Паўлік кніжачку чытае". Мн., "Юнацтва", 2001 г.

# «НАЙЛЕПШЫЯ ПРЫВІТАННІ З МІНСКА»

Прайшло амаль 60 год з дня нашай перамогі ў другой сусветнай вайне, і, здавалася б, усё сказана пра жахі, што прынёс на нашую зямлю фашызм, але яшчэ выдаюцца кнігі, публікуюцца новыя факты, якія ўзрушваюць нас сваёй жудасцю і жорсткасцю.

У 2001 годзе ў Берліне быў выдадзены раман нямецкага публіцыста Паўля Коля "Найлепшыя прывітанні з Мінска". Сам пісьменнік нарадзіўся ў 1937 годзе ў Кёльне, працаваў рэжысёрам у шматлікіх тэатрах, пісаў п'есы для радыё. Цікавасць Паўля Коля да падзей другой сусветнай вайны на тэрыторыі былога СССР падштурхнула яго да дэталёвага азнаямлення з тагачаснай сітуацыяй. З 1988 па 1993 гады Паўль Коль займаўся зборам інфармацыі ў архівах Беларусі і ў Федэральным архіве Германіі. Гэты пошук адлюстраваўся ў дакументальнай працы "Мяне здзіўляе, што я яшчэ жыву", якая пазней выходзіла таксама пад назвай "Вайна нямецкага вермахта 1941—1944".

Але не ўся сабраная дакументацыя ўвайшла ў першую кнігу П. Коля, бо гэтаму не спрыяла яе канцэпцыя. Тады і з'явілася думка, што з рэштkаў можа нешта атрымацца, што ён павінен апублікаваць гэты матэрыял. Але "не як дакументальную працу, а як раман, як гісторыю з нямецка-савецкай гісторыі". Ён бярэ інтэрв'ю ў Алены Мазанік (выканаўцы забойства генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ) і ў жонкі Кубэ Аніты, знаходзіць нямецкі план Мінска 1942 года і шукае новую інфармацыю. Праца ўласна над кнігай працягвалася з 1993 па 1997 гады ("чатыры гады з вялікімі перапынкамі, каб зарабіць грошай на радыёперадачах"). Вынікам упартай працы і стаў раман "Прывітанне з Мінска", заснаваны на гістарычных дакументах.

Асноўная тэма кнігі — жыццё яўрэйскага насельніцтва ў нацысцкай Германіі, акупаванай Беларусі, і ў мінскім гета.

Што датычыцца зместу, то ў гэтым плане раман, нягледзячы на ягоныя немалыя памеры (каля 500 старонак), чытаецца вельмі цікава.

Гэта гісторыя яўрэйскай сям'і Дойчманаў з Кёльна, што разам з іншымі кёльнскімі яўрэямі 20 ліпеня 1942 года была дэпартавана ў Мінск, потым размешчана ў мінскім гета і напрыканцы знішчана. І ў той жа час гэта гісторыя маладога журналіста Фелікса з "Кельнішэ цайтунг", суседа Дойчманаў у Кёльне, які таксама ў ліпені 1942 года трапіў у Мінск, быў накіраваны на працу ў "Мінскер цайтунг".

Сам па сабе раман асаблівы тым, што, перадаючы ўнутраны стан герояў, перадаючы падзеі, аўтар не дае сваёй ацэнкі. Як заўважыў сам Паўль Коль, ён не хацеў бы, каб чытач будаваў свае адносіны да падзей, абапіраючыся на аўтарскія. Ён хацеў бы пазбегнуць такога ўплыву на эмоцыі чытача. Развіццё дзяржпалітыкі нацысцкай Германіі ў адносінах да яўрэйскага насельніцтва, абсурднасць тэорыі расізму, злачынства супраць чалавека ў лагерах смерці, заснаваныя на фактах і не патрабуюць аўтарскіх ацэнак. Праблематыку твора робяць больш вострай часавая і мясцовая паралелі Мінск 1942 — Кёльн 1936—1942. Яшчэ кідаецца ў вочы, што ў рамане адсутнічаюць словы-сімвалы таго часу, напрыклад Гітлер ці фашызм, без чаго, здавалася б, немагчыма было дасканала адлюстраваць і данесці сітуацыю. Яна, дарэчы, тыповая як для ўсёй Германіі, так і для акупаваных тэрыторый. Што цікавіла аўтара больш за ўсё, што ён больш за ўсё імкнецца асвяціць у сваёй працы — гэта жыццё простых людзей, чалавека ўвогуле ў час вайны.

Мэтай выхаду кнігі было прыцягненне ўвагі нямецкага чытача да нашай краіны, бо для большасці немцаў вайна на тэрыторыі РБ застаецца "невядомай" вайной. Гэта па-першае, а па-другое, "трэба, каб ваш чытач ведаў, што ў Германіі ёсць яшчэ журналісты, якія займаюцца гэтай тэмай". Для дыялога нашых культур адметна тое, што зараз раман перакладаецца на беларускую мову і робіць гэта моладзь — студэнткі факультэта нямецкай мовы МДЛУ пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры гісторыі і беларусазнаўства С. Новікава і выкладчыка кафедры гісторыі і граматыкі нямецкай мовы С. Паўлавіцкага. І ўжо ў лістападзе з кнігай зможа пазнаёміцца беларускі чытач.

Паўль Коль выступіў ініцыятарам адкрытай 21 сакавіка гэтага года ў Мінску гістарычнай майстэрні. Яе асноўныя мэты — вывучаючы мінулае, бачыць будучыню. Сама майстэрня, як сродак беларуска-нямецкага дыялога, была заснавана пры падтрымцы кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь у рамках праграмы "Беларусь" Федэральнага ўрада Германіі. Майстэрня размешчана ў будынку на тэрыторыі былога мінскага гета, як напамін аб трагічнай гісторыі другой сусветнай вайны.

Зараз гэта месца супрацоўніцтва паміж нямецкім і беларускім бакамі, цэнтр сустрэч з замежнымі гасцямі. Раман Паўля Коля зноў вяртае нас да тых часоў, дае падставы для роздуму, і не пакідае без ўзрушэння ніводнае чалавечае сэрца...

Цытаты ўзяты з асабістай перапіскі аўтаркі з Паўлем Колем.

Алена МАРТЫНАВА



Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



## КРЫНІЦА

*У радзімным краі,*
*У зялёным гаі*
*Буду раны гаіць.*

*Там крыніца адна*
*Нават ноччу відна*
*Аж да самага дна.*

*Туды прадзед хадзіў,*
*Дзед душу маладзіў,*
*Бацька сум саладзіў.*

*Яна ж мкне ўсё, імкне,*
*Срэбра свеціць на дне —*
*Яго хопіць і мне.*

## НА ПЛОШЧЫ ЯКУБА КОЛАСА

*Марудзяць нашы трамваі*
*На плошчы Якуба Коласа.*
*І як ты мяне трываеш*
*Сумнага,*
*Невясёлага?*
*Я даўно не смяяўся молада,*
*Я даўно не кахаў нястрымна.*
*Уяўляю, як табе*
*Холадна,*
*Як побач са мною*
*Зімна.*
*А ты ўся цнатліва-чыстая*
*І ў чысціні сваёй кволая.*
*Ты пацярпі:*
*Я выстаю,*
*Я навучуся ў Коласа.*

## ТРАВЕНЬ

*Ласкаю травень расчуліў.*
*Слухай,*
*Душа,*
*Не чарсцвей:*
*Ранкам*
*З табою зязюля,*
*Вечарам —*
*Салавей.*

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ІДЫЛІІ

*Якая позняя вясна,*
*Якое доўгае чаканне!*
*Мне ноччу сніцца баразна,*
*Шпаком разбуджаная ранне*
*І бацькам выбелены сад.*
*Пад белай яблынькаю — грады.*
*У маці ясніца пагляд:*
*Яна высаджвае расаду.*
*Якое простае жыццё*
*Для выпадковага пагляду!*
*А тут не побыт, тут — быццё,*
*Яго высокая улада.*

*Мне сніцца выбелены сад,*
*О, каб вярнуць той кадр назад!*

## ЗАБЯСЕДДЗЕ Ў РАСЕ

Памяці бацькі

*Трэці год не кашу*
*Я з табою лугі.*
*Там мянташыць касу*
*Зараз нехта другі.*

*Хоць і хвацкі касец,*
*Ды табе не раўня,*
*У вёсцы ведалі ўсе:*
*Ты асілкам радня.*

*Забяседдзе ў расе.*
*Над ракой туманок.*
*Па сваёй паласе*
*Не ідзе Пісьмянок.*

*Уздыхае твой конь*
*На чужыне ў журбе.*
*Паслабела далонь*
*У мяне без цябе.*

*Паслабела далонь.*
*Легла срэбра на скронь.*

## ВАСЕМНАЦЦАТАЕ ЛЕТА. УСПАМІН.

*Пахне мёдам і ранетам*
*Васемнаццатае лета.*

*Конь ласуецца ў атаве,*
*Жабы ў Бесядзі картавяць.*

*Рыбакоў заціхлі крокі,*
*Спіць мястэчка сном глыбокім:*

*Нарабілася да стомы,*
*Натапталася па дому.*

*Нават стомленая поўня*
*Задрамала ў лёгкім чоўне.*

*Нам не сорамна да золку*
*У стажку шукаць заколку.*

## АД'ЕЗД

*Яшчэ нічога не было:*
*Адна няясная трывога*
*Ды бацька з маці ля парога,*
*Ды зоркі дрогкае святло*
*Над затуманенай дарогай.*
*Яшчэ не куплены білет*
*На ціхай станцыі вясковай,*
*Яшчэ суровы белы свет*
*Святлом надсвечаны ружовым.*

## ПАПРОК

*Я стаў баяцца белых зім.*
*Я разлюбіў цябе,*
*Мой люты,*
*Такога гора і пакуты*
*Шчэ не было ў жыцці маім.*
*Я не прывык прасіць спагады —*
*Дасюль мне лёс не быў айчым.*
*Ты, люты,*
*Дай жыцця мне свята*
*І люта*
*З мамай разлучыў:*
*Я стаў баяцца белых зім.*

## ШАРАЮ ГАДЗІНАЙ

*Далёкае*
*і блізкае,*
*Высокае*
*і нізкае,*
*Спакойнае*
*і тлумнае,*
*Вясёлае*
*і думнае,*
*Пяшчотнае*
*і грубае,*
*Нялюбае*
*і любае...*
*Усё гадзінай шараю*
*Злілося і змяшалася*
*І шэрае,*
*і зорнае,*
*І белае,*
*і чорнае.*

## ЗА ВОРШАЮ

І ложак нам — зелень.
Песня песням.

*Да апошняга*
*Усё разлічана*
*І пралічана*
*У Тварца.*
*Песня песням*
*Амаль не чытана,*
*Не прачытана*
*Да канца.*
*Ах, як пахнуць лугі*
*За Воршаю!*
*Ах, які ў салаўя*
*Зачын!*
*Мы з табою, павер,*
*Не горшыя,*
*Мы не горшыя*
*Чытачы.*

## АРЫТМІЧНЫ ВЕРШ

Віктару ПАТАПЕНКУ

*"Ах, якая вада ў Калодзескай,*
*Хоць бяры ды на продаж вязі!*
*Калі вып'еш —*
*Душа амалодзіцца,*
*Калі вып'еш —*
*Яшчэ папрасі!"*
*Гэта з маленства*
*мне помніцца,*
*Гэта адтуль*
*прыплылі галасы,*
*Гэта ходзіць мая бяссонніца*
*Ля чарнобыльскай паласы,*
*Дзе ні сеецца,*
*ні малоціцца,*
*Дзе ніколі ніхто не народзіцца.*
*Што ж ты,*
*Сэрца,*
*Калоцішся*
*Ля пустога калодзежа?*

# З НІЗКІ «ПАРТРЭТЫ»

## КАІН І АВЕЛЬ

*Зноў туга засцілае пагляд:*
*Чалавек чалавеку не рад.*
*Хіба Авель не Каінаў брат?*
*Хіба Каін не Авелеў кат?*

*Разбівае надзеі ўсе ў прах*
*Тлумных дзён неразумны разбег.*
*Ох, і лёгкі ж у Каіна ўзмах,*
*Ох, і цяжкі ж у Каіна грэх!*

*Як малітву святую ні дойж,*
*Спатыкнешся аб д'ябальскі смех.*
*Кроў ніякі не вымые дождж*
*І ніякі не выбеліць снег.*

## НАТАЛЬКА

***На грэх пусціўся праз дзяўчыну***
***І мусіў праз яе сканаць...***

Янка КУПАЛА "Магіла льва"

*Магіла льва каля Дняпра*
*Усім вядомая спрадвеку.*
*Ды раптам выйшла з-пад пяра:*
*Наталька здрадзіла Машэку.*

*Не ўпала неба на Дняпро*
*І не спынілі бег свой рэкі.*
*Няўжо ёй рухала дабро,*
*Калі руку ўздымала на Машэку?*

*Няўжо цана каханню грош,*
*Наіўным кінуты для здзеку?*
*Ах, вы пярэчыце! І ўсё ж*
*Наталька здрадзіла Машэку.*

## КАСТУСЬ І МАРЫСЯ

*Не сумуй,*
*не сумуй,*
*Беларусь,*
*Па-над крыўдай сваёй узніміся.*
*Імя слаўнае ўспомні Кастусь*
*І адданыя*
*Вочы Марысі.*
*Белавежжа паслухай лясы.*
*У іх пошуме ратныя былі.*
*Гэта вояў тваіх галасы.*
*Іх забілі,*
*Але не забылі.*
*Брукаванкаю Вільні іду,*
*Там,*
*Дзе нашыя сны не збыліся.*
*І аб вечным гамонку вяду*
*З Кастусём і Марысяй,*
*З Кастусём і Марысяй...*

ПРОЗА

# АПОВЕД ЖУРНАЛА ФЁДАРАВІЧА

## Урывак з аповесці

Уладзімір МІХНО



Сакавік... Другі дзень і першы панядзелак вясны. Я ізноў іду ў школу. Я — пажыццёвы вясковы настаўнік, мама сказала б "сідзень", "мярлюк"! Мае равеснікі — у гарадах і пры далярах, а я... Якія харошыя словы: "сідзень", "мярлюк"! Колькі ў іх непрытворнага, народнага, сапраўднага... Дзе толькі мама брала такія слоўцы-дыяменты? Сыпала, бывала, імі, як гарохам... Мы пасля дыялекталогію ва універсітэце вывучалі. У нас, між іншым, сам Ніл Сымонавіч выкладаў. І на практыку ездзілі — фальклор збіралі. Колькі касет паспісвалі, а маміных слоў я нідзе там, на Міншчыне, не пачуў. Мы — віцебскія, мы асаблівыя. Нешта з Дубровеншчыны, нешта з Бягомльшчыны. Мальцы... Дзе яшчэ пачуеш, акрамя як у нас?..

Заснежыла... Пазаўчора быў апошні дзень. вясны. Ціха было, цёпла. Дзеці, як незаганяныя, насіліся вакол школы, смоллю лезлі на возера, і наш дырэктар Ала Міхайлаўна ўвесь дзень жыла на валідоле. Лёд зараз здрадлівы: тоўсты на выгляд і гнілы па сутнасці. Дзіва, пачынаючы ад зімовых канікулаў, стаяла ці то восень, ці то вясна. А можа, прырода прыдумала нейкую пятую пару года, пра якую яшчэ ні ў водным падручніку ніводзін пісьменнік не паспеў расказаць. Во дзе прастор для творчасці!

Пазаўчора была вясна, а ўчора раптам наступіла зіма. Тая самая, класічная, пра якую пісаў Іван Мележ: "Снег пацерусіў трохі і перастаў. Вецер за дзень вымеў белую муку, пазаганяў яе па шчылінах, па закутках. Яркія белыя пасы і латкі толькі дзе-нідзе пярэсцілі панурасць двароў і агародаў". Я люблю "Палескую хроніку"... І я люблю вось такую зіму, якая сёння. Што там учора — учора была толькі генеральная рэпетыцыя зімы (енаральная парапіца). А сёння пачаўся сапраўдны зімовы спектакль. Вецер ганяе белую завею, як гаспадар маладуюнеаб'езджаную наравістую кабыліцу. Чаго добрага — вырастуць сумёты. Ці не ўпершыню за дзесяць гадоў майго настаўніцтва. А ў дзяцінстве я помню такія сумёты, калі мы на санках каталіся са страхі і, між іншым, на фізкультуры не гулялі ў камп'ютэрныя гульні, а ганялі па возеры лыжныя кросы. А завіруха — клас! Твар падстаўляй ветру, смела пазірай у вочы стіхіі і — нічога-нічога не бойся. І не трэба, нават у думках, шукаць сцежкі, ідзі бездач! Гэтую сцежку я ведаю і так напамяць, як ведаю напамяць праграмныя вершы. Я знайду на ёй кожны каменьчык і кожную травінку, як знайду з заплюшчанымі вачыма любую патрэбную старонку ў падручніку па беларускай літаратуры. Толькі не падумайце, што выхваляюся. Я ўжо выйшаў з таго ўзросту, калі была патрэба хваліцца і даказваць, які я настаўнік... "Маладыя гады — маладыя жаданні"... А настаўнік павінен ведаць сабе цану. Інакш з'ядуць. Зажуюць і выплюнуць. І нікому нічога не дакажаш. У школе — як у цырку. Хто першы пусціць пыл у вочы, таму начальства дазваляе фокуснічаць і таго аб'яўляе галоўным спецыялістам. Дзякуй богу, што дзецям не трэба нічога даказваць. Яны даўно ўжо ўсіх нас раскусілі, расклалі на дробы і расфасавалі па гатунках. А я зраблю зараз геніяльнае прызнанне. Можна? Эксклюзіўнае інтэрв'ю. Толькі для вас і не для друку. Бо, не дай бог, прачытаюць дзеці. Я ж люблю школу. Люблю, нягледзячы ні на што. А яшчэ я люблю свой дзевяты клас. Страшна прызнацца нават самому сабе, але я проста КАХАЮ яго... Не, старога бабыля Журнала Фёдаравіча, гарохавага кавалера, які на ўсё жыццё ажаніўся са школай, трэба ад гэтай самай школы трымаць не меней як за паўкіламетра, трэба навязаць на ланцуг і не падпускаць. Але вось жа падпускаюць, і я ўжо ля школы.

Наша школа арыгінальная. Мабыць, адна такая ў раёне, а можа, і ў вобласці. Знешне яна нагадвае старажытны замак. А тут і праўда быў маёнтак, і жыў некалі славуты пан Грамніцкі. Паны ведалі, дзе сяліцца. Нездарма ж наша школа стаіць на стромым узгорку, па-над возерам. Высокі драўляны ганак, асабліва цікавы, калі пасля зімовае аплавакі заледзянее, а Навумаўна возьме ды аб'явіць страйк і не пачысціць яго. Навумаўне аб'явіць страйк — як раз плюнуць. Яна ж у нас намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы, а па сумяшчальніцтве — намеснік Бога ў нашай Сматрыцкай базавай школе. Пад Новы год, калі сіноптыкі, помніце, аб'явілі пра лютыя маразы і пачалі ўвогуле пужаць пяцідзесяціградуснаю зімою, а прырода, не доўга думаючы, кінулася выконваць прагноз, наша Навумаўна пачала барацьбу за свае грамадзянскія і чалавечыя правы і свабоды. Прыходзім у школу — па класах ды ў настаўніцкай клацаюць зубамі як ваўкі, а тэрмометр ад смеху ўпаў ледзь не да нуля. Мы за печкі — а на іх хоць ты марозіва гатуй. Мы — за Навумаўну, а яна за нас. А печку ці чулі, трэба, аказваецца, праз дзень паліць, інакш печка аддасць канцы. Ну, я ёй цярпліва тлумачу:

— Разумееце, Надзея Навумаўна, канцы аддаць могуць не толькі печкі, але і мы з вамі. Але, што самае жахлівае, зараз сюды прыйдуць дзеці.

Настаўнікі сядзяць моўчкі, хітра пасміхаюцца, нехта, схаваўшы пад стол, азартна пацірае рукі, чакаючы гладыятарскага бою. Дырэктар, як заўсёды, схавалася ў кабінеце. Усе спадзяюцца, што Віктар Фёдаравіч сёння "на літаратурным узроўні вырашыць праблемы ацяплення школы". Мне пляваць — я што думаю, тое скажу. Усе гэта ведаюць, усе прывыклі. Я толькі не разумею, навошта ў школе дырэктар? Хапіла б аднае Навумаўны. Самае цікавае, што намеснік дырэктара па пячорнай філасофіі мела неасцярожнасць у свой час закончыць педагагічнае вучылішча і, пакуль не "дэмабілізавалі" яе з педагагічнае працы па прычыне, пардон, блізкага сваяцтва з Бахусам, вучыла дзяцей. Цяпер яе педагогіка, на шчасце, засталася ў мінулым, ды захавалася прывычка павучаць. Прывычка горш за хваробу. Да хворых, звычайна, ставяцца паблажліва. Але ж Навумаўна — хворая з прывілеямі. Хто зачэпіць жонку старшыні калгаса? Вось і сядзяць, і пацірають рукі — пад сталом...

Я ступаю на ганак школы і — хвалююся. Далібог, як першакласнік. Мабыць, старэю. Зараз, пакуль падымуся па стромых панскіх лесвіцах на другі паверх, паяўлюся ў настаўніцкай захаканы, як бы за мною сабакі гналіся. Мне трыццаць пяць, а я абзавёўся пузінаю-гарбузінаю, якая перашкаджае жыць і адчуваць сябе падлеткам. Не дай бог, мой дзевяты спіша свайго Журнала Фёдаравіча ў дарослыя. Няўжо мы перастанем адзін аднаго разумець? Няўжо я стану ў іх вачах тоўстым, занудлівым, акадэмічным Журналам, годным толькі для таго, каб механічна выстаўляць адзнакі і аддаваць каманды. Няўжо я стану дарослым?

У настаўніцкай — нікога. Нашыя так рана не прыходзяць. Бадай усе яны з колаў. Ездзяць у школу з горада і жывуць тут па аўтобусным раскладзе. Здараецца часам так, што аўтобус забуксуе ці зламаецца. І тады нашая педагагічная гвардыя адчайна галасуе дзесьці там, на паўдарозе з райцэнтра, а першы бой прымаем мы з Аксанай Валер'еўнай, маладою настаўніцай матэматыкі, якую прыслалі сюды па размеркаванні два гады таму. Думалася, часова, ды нішто не бывае больш пастаянным, чым часовае размеркаванне ў сельскую школу. Мы з Аксанай Валер'еўнай хаўруснікі па баявых дзеяннях. А ля гер ком а ля гер. І што б там ні казалі злыя языкі, тонка намякаючы на тоўстыя абставіны, пакуль што мы проста сябры. Сябры па няшчасці... Мы прымаем першы бой: закідваем пяць старэйшых класаў самастойнымі заданнямі, аб'яўляем камендацкую гадзіну і, нібы самыя сапраўдныя паліцыянты, шпацыруем з класа ў клас з інспекцыйнымі візітамі, пакуль нарэшце не падвальвае ў школу заснежанае, расчырванелае, задыханае педагагічнае папаўненне.

Мы з Аксанай Валер'еўнай мелі неасцярожнасць прыехаць у Сматрычы дый запісацца тут у мясцовыя. Аксане болей пашанцавала: не паспела агледзецца,як ужо й запрыкмеціў яе малады зухаваты Грышка Кармен, мясцовы механізатар, а мой колішні, яшчэ ці не першага году вучань. Я помню Грышку на сцэне нашага пустога Сматрыцкага клуба, дзе мы ў той час бадай кожны вечар, з боем вывудзіўшы ключы ў п'янчужкі-заўклубшы, рэпеціравалі спектаклі. Першыя гады, калі я яшчэ думаў, што свет не такі безнадзейна жорсткі і хцівы, падахвоціўся быў весці ў школе драмгурток. Дзеці павалілі валам, і я проста не меў права не адказаць ім на гэты давер. Зрэшты, я і сам тады думаў, што раблю нешта незвычайнае, што нехта ўсё гэта заўважыць, ацэніць. Заўважылі, ацанілі! Убачылі, што малады спецыяліст шустрэй за ўсіх высоўвае нос і што трэба варушыцца, каб на яго фоне не выглядаць шэрым балотам. Убачылі, і вырашылі доўгі нос падкараціць. Дружна і метадычна пачалі маладога "есці". Загуло, забулькала балота, засмярдзела... Каб на цяперашні розум, навошта мне быў той гурток? Даказаць усё роўна нікому нічога не дакажаш. Колькі тут існавала гэтых самых гурткоў. Афармлялі ў журнале, атрымоўвалі людзі грошы і не надта клапаціліся пра свой настаўніцкі аўтарытэт. Аўтарытэту табе захацелася? З ваўкамі жыць — павоўчы выць. Але няўжо і праўда тыя першыя твае тэатральныя спробы былі заўчаснымі і дарэмнымі? Мусіць, усё ж не. Бо нават калі аднаго Грышку Кармена вырасціў той драмгурток, гэта ўсё роўная твая перамога. А колькі ж іх, такіх Грышкаў, сёння вітаюцца і дзякуюць! Эх, мабыць, нездарма, Віктар Фёдаравіч, пратаптаў ты да школы сваю партызанскую сцежку.

Аксана і Грышка пажаніліся. Атрымалі ў калгасе хату, балазе механізатары — не настаўнікі: хаты ў вёсцы да другога прышэсця не чакаюць. Ані лыжкі, ані міскі, затое ўжо сына гадуюць. Тэлевізар купілі. Не прап'ецца хлопец, застанецца свая галава на плячах — усё ў іх будзе. Дык што, з-за гэтага я павінен Аксане зайздросціць? Радавацца трэба. Але ж зайздросцяць, ды вунь як!

Самому мне, старому бабылю, пашанцавала куды меней. Хату давялося выкупіць закінутую. Вунь іх колькі, пакінутых старых хат у вёсцы. Сіратлівыя, нягеглыя, адчайна пазіраюць на вуліцу павыбіванымі вокнамі, як дзеткі-сіроткі, пакінутыя бацькамі на волю лёсу. Хату крыху падлатаў, ачалавечыў, абставіў сяк-так. У іншых няма і гэтага, панапускаюць дзяцей, каб трантамі трэсці, у хаце часам няма і зэдлічка, сесці за стол. У цябе ж, Віктар Фёдаравіч, і дываны, і паласы, і кухня, і мяккі куток, і чыста, і ў лядоўні не пуста. Лацвей аднаму: капейка да капейкі — прырастае доўгім рублём. А ўсё роўна ў хаце вусцішна, бы нячыстая сіла жыве. Бабылём смярдзіць, не хапае гаспадыні, няма сям'і. Чужыя дзеці. Не бывае і дня, каб да цябе, настаўніка, не заходзілі вучні. Чужыя дзеці прывыклі, асвоіліся ў тваёй хаце, а ты прывык да іх. Вырастаюць адны, ім на змену прыходзяць іншыя. Я нават ужо не ўяўляю жыцця свайго без іх, маіх сённяшніх падлеткаў. Яно і жаніцца можна, трэба было б жаніцца, каб пазбавіцца дакучлівых, здзеклівых насмешак, незаслужанай абразы. У нас жа так: не ўпісваешся ты ў агульнапрыняты сцэнарый, не паспяваеш жыццё ўхапіць за хвост, каб зрабіцца падобным да іншых, хоць бы нават гэткім самым шэрым, затое стандартным — і становішся ты прадметам насмешак. Шэрасць у нас у пашане... Можна й жаніцца. Вось толькі падумаеш: куды без цябе — гэтым чужым дзецям, абяздоленым, яршыстым, неўраўнаважаным, безабаронным перад гэтым цынічным і жорсткім светам. Чужыя дзеці знайшлі ў тваёй хаце і цеплыню, і ўвагу, і разуменне, знайшлі тое, чаго ім не хапае дома. І што ж цяпер? На вуліцу? І — зноў гуляць па няпісаных правілах падлеткавае зграі? Не, Журнал, не спяшайся, твая жонка пачакае. А мо і праўда ты ўжо даўно зрабіў свой выбар, ажаніўшыся са школаю?

Люблю прыйсці ў настаўніцкую, пакуль яшчэ нікога няма: ні сяброў, ні зайздроснікаў. Які ён будзе, сённяшні школьны дзень? Чысты ліст паперы, дзе ты, настаўнік, яшчэ павінен напісаць сваё новае сачыненне.

— Добры дзень, Віктар Фёдаравіч! Вы, як заўсёды, у першых радах. Добра халасцяку: ні клопату табе, ні адказнасці. Падняўся, паеў, школа побач. Пайшоў ты, і хата пайшла з табою.

— Добры дзень, Вікторыя Аляксееўна, хто ж вам не даваў хату з сабою ў сумку забраць? Вось бы і не хваляваліся.

Баба... Я зусім забыўся. Гэта ж мясцовыя не толькі мы з Аксанаю. Яшчэ ёсць Баба. Дзеці яе па-іншаму ніколі не называлі. Баба, праўда, не зусім сматрыцкая, а ходзіць сюды кіламетры за тры, з суседняе Чырвонае Раніцы, ходзіць мо ўжо гадоў сорак. Некалі ж і яна таксама была тут дырэктарам. Проста не ўяўляю, якім чынам звычайная вясковая баба трапіла ў школу. Сукенка на ёй, мабыць, тая ж самая, якою раніцой выхваляецца перад свіннямі, за плячыма — гаспадарчая сумка. Што ў ёй носіць? Хіба гарбузы? Сшыткаў не тое, што ў пачатковых класах, ва ўсёй школе каб сабраў, сумкі гэтае не запоўніш. Кажуць, на вялікім перапынку Баба раптам вымае з гэтае сумкі агуркі, кілбасу, хлеб, бутэрброды і тэрмас з чаем, раскладвае на настаўніцкім стале і пачынае есці. Не ведаю, я ў пачатковай школе, бадай, не бываю, гэта зусім іншы будынак. А ў настаўніцкай Баба, дзякуй богу, паказваецца рэдка, хіба каб пахваліцца сваім свінствам...

— Га, браток, гаспадаркі не забярэш. Вы, маладыя, цяперака бясклапотныя. Улегцы жывяце, яшчэ й стогнеце, як вам цяжка. Вось паспрабавалі б у наш час. Галодныя, паўголыя пасля вайны хадзілі. А вучылі. Да Сілівонаўкі босая іду, туфель шкадую, пад сматрыцкай гарою абуваюся і — на ўрок.

Цяпер я разумею сваіх дзевяцікласнікаў, аднойчы раптам не вытрымалі і кажуць мне:

— Віктар Фёдаравіч, а чаму ад Сяўніцкай сілосам нясе? Яна што, ніколі не мыецца?

Ну, я ж ім і задаў. Надоўга зарекліся пры Журнале перамываць косці настаўнікам. "Вам што, — кажу, — прыносіць задавальненне здзекавацца са старых людзей? Вы што, садысты?"

Кажу, а сам думаю, мо й дарэмна я так. Наадварот, трэба было патлумачыць, што настаўнікі — таксама людзі, а людзі розныя бываюць.

Баба бесцырымонна паставіла на стол сваю гаспадарчую сумку, пераклала сшыткі, сцягнула з галавы хустку. Цікава, ці зазірне хоць у люстэрка? Не, нават не падумала. Распранулася, павесіла ў шафу паліто, узяла журнал, хацела ісці, ды апярэдзіла яе Аксана Валер'еўна, зайшла радасная, узбуджаная:

— Так хораша! Зіма сапраўдная. З Новага года такога снегу не бачылі. І мароз... Ваш дзевяты, Віктар Фёдаравіч, у поўным складзе на катку. Коўзанку зрабілі, каб вы бачылі, ледзьве не ад школьных варот і да возера.

— Да возера? — усклікнула Баба, — а божачкі, патопяцца яшчэ, чаго добрага. Ганіце, Віктар Фёдаравіч, пакуль начальства не ўбачыла.

Я ўсміхнуўся:

— Нічога, — кажу, — хай пакатаюцца. Не такія ўжо дурні і не маленькія. Далёка на возера не палезуць.

— Во-во, — падтрымоўвае мяне і Аксана, — марозу сапраўднага бадай усю зіму не бачылі... Ім жа хочацца...

— Хочацца? — Баба пакрыўджана падцяла губы, загугнела, як благая свякруха. — Як ведаеце, Віктар Фёдаравіч. Вашы дзеці, вы распісваліся за інструктаж, вам і адказваць.

— Ды што вы, на самай справе, Вікторыя Аляксееўна? Інструктаж... Няўжо магчыма кожнага падлетка за нагу навязаць да парты, прыкаваць у школе і прымусіць чакаць, пакуль закончыцца навучальны год? Дый ці ёсць сэнс? Мы пасвім дзяцей на кожным кроку, а яны прывыкаюць і потым становяцца нахлебнікамі, беларучкамі, і думаюць, што мы ўсё жыццё за іх будзем прымаць рашэнні.

— Беражонага бог беражэ, дарагая. Вот смажаны певень у цемячка не клюнуў...

Найшла каса на камень. Аксана сабралася даказаць Бабе, ды яшчэ і з педагагічных пазіцый. Тэрмінова трэба здымаць маральна-псіхалагічную напругу, і я ўстаўляю свае тры лапці.

(Заканчэнне на стар. 15)

# НЕРАДАВЫЯ КІНЕМАТОГРАФА

***На вялікіх экранах Мінска – россып сусветных кінанавінак: амерыканскі рымейк фільма А. Таркоўскага "Салярыс" у рэжысуры С. Содэрберга, аднаўленая версія знакамітай французскай карціны "Фанфан-цюльпан", прадзюсерам якой выступіў Л. Бесон, амерыканская "Адаптацыя" С. Джоўза, што параўноўваюць з фільмам Феліні "$8^1/_2$". Аднак дакладна вядома, што і беларускія кінатворцы не "спяць у шапку": сёння на студыі "Беларусьфільм" рыхтуюцца да запуску новыя ігравыя кінастужкі, а па словах яе генеральнага дырэктара В. Шанько, гадоў праз 5–6 кінастудыя будзе самаакупнай калі не на ўсе 100 працэнтаў, дык на 80 – абавязкова (цытуецца паводле інтэрв'ю газеце "Культура").***



Несумненна, галоўная "фішка" сёлетняга лета — прэм'ера новага беларускага блокбастара "Легенда пра Анастасію Слуцкую" (рэжысёр — Ю. Ялхоў, аператар — Т. Логінава, у ролі Анастасіі — С. Зелянкоўская), якую плануюць паказаць 3—4 ліпеня падчас правядзення Фэсту сярэднявечнай культуры "Старадаўні Нясвіж", а таксама ў Мінску. Карціна, якую доўга чакалі, ужо цалкам прафінансавана дзяржавай, прынята і мастацкім саветам студыі, і экспертнай камісіяй Мінкульта. Плануецца, што ў пракат трапіць копія на беларускай мове, агучаная ў сістэме DOLBI-STEREO...

Сёння на студыі "Беларусьфільм" пачаўся мантаж дзіцячай кінастужкі "Сукенка для балю", рэжысёрамі якой выступілі М. Касымава і І. Волах ( дагэтуль Ірына здымала ў асноўным дакументальныя фільмы). Рыхтуецца да запуску сумесны, расійска-беларускі кінапраект "Дунечка" (рэжысёр — А. Яфрэмаў, аператар — А. Рудзь), у якім па дамоўленасці з масквічамі будуць іграць як расійскія акцёры (напрыклад, М. Яфрэмаў), так і беларускія (Р. Янкоўскі, В. Манаеў, А. Кот, В. Палякова, В. Арланава). Дарэчы, дзяўчынкі, якія мараць зрабіцца кіназоркамі, могуць цяпер паўдзельнічаць у кінапробах, што ладзяцца на студыі (здымкі "Дунечкі" распачнуцца толькі праз некалькі месяцаў).

У бліжэйшых планах "Беларусьфільма": стварэнне чатырохсерыйнай версіі беларускай кінастужкі "Паміж жыццём і смерцю" Д. Зайцава (сумесна з расійскім тэлеканалам ГРТ), здымкі патрыятычных фільмаў на ваенную тэматыку "Вам заданне" паводле твора М. Чаргінца



(выйдзе ў свет у 2004 г.) "Радавыя" А. Дударава (з'явіцца на экранах у 2005 г. — у гонар 60-годдзя з Дня Перамогі.). Дарэчы, стужка "Радавыя", якая ўжо названа новым нацыянальным кінапраектам, паводле слоў А. Лукашэнкі, "павінна быць знята на самым высокім прафесійным узроўні і завабліваць гледачоў не толькі ў нас у краіне, але і за мяжой".

В. БАРАБАНШЧЫКАВА

*НА ЗДЫМКАХ: кадр з кінафільма "Легенда пра Анастасію Слуцкую"; рэжысёр А. ЯФРЭМАЎ у пошуках "Дунечкі".*





# ЯНКОЎСКІ ДЫ ІНШЫЯ

***Пасля таго, як вядомы беларускі акцёр Расціслаў ЯНКОЎСКІ сыграў ролю Маціяса Клаўзена ў спектаклі "Перад заходам сонца" Г. Гаўптмана, над ім пачалі па-добраму кпіць: маўляў, "Мацiяс Клаўзен і іншыя", памятаючы пра вобраз Ягора Булычова, створаны некалі Янкоўскім у спектаклі "Ягор Булычоў і іншыя" М. Горкага. У п'есе Л. Пірандэла "Шасцёра персанажаў у пошуках аўтара" героі кажуць, што, здараецца, людзі ўжо нараджаюцца тэатральнымі персанажамі, нясуць драму ў саміх сябе. Як у сапраўднага тэатральнага персанажа жыццё Р. Янкоўскага багатае на ўсемагчымыя падзеі, перажытыя эмоцыі: "служба" ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага (па словах Б. Луцэнкі, Р. Янкоўскі з'яўляецца сапраўдным рыцарам сцэны, закаханым у яе як у любую жанчыну), добрая сям'я, праца ў Савеце Нацыянальнага сходу Рэспублікі, кіраўніцтва міжнародным кінафестывалем "Лістапад". Таму не дзіва, што гутарка з акцёрам на паперы склалася ў своеасаблівы накід п'есы пад назвам "Янкоўскі ды іншыя".***

*СЦЭНА ПЕРШАЯ. ТЭАТР*

**ЖУРНАЛІСТ:** Вашая новая тэатральная работа — роля Мацiяса Клаўзена ў спектаклі "Перад заходам сонца" Г. Гаўптмана. Рэжысёр Б. Луцэнка назваў сваю сцэнічную кампазіцыю "гісторыяй дзіўнага кахання". Вам яна таксама падаецца дзіўнай?

**Р. ЯНКОЎСКІ:** З майго гледзішча, гэта вельмі ўдалы спектакль. Я, напрыклад, атрымліваю ад яго асалоду. Пасля "Макбета", гэта, бадай, мая самая буйная работа. Да ролі Мацiяса я рыхтаваўся старанна, нават фізічна. Паехаў у Юрмалу, шмат хадзіў, купаўся... Бо я іграю актыўнага сямідзесяцігадовага чалавека, а мне ж — болей за семдзесят гадоў.

Увогуле мы вельмі доўга выбіралі п'есу. Мусілі ставіць "Караля Ліра", а потым падумалі, што п'еса Гаўптмана — гэта той жа "Кароль Лір", толькі тут яшчэ і каханне. Не, гэта гісторыя мне не падаецца дзіўнай. Гледачы сочаць за ёй, як заваражаныя. Бо гэты спектакль можа зацікавіць, як моладзь, так і сталых людзей. Сталым нават будзе цікавей яго глядзець — магчыма ў кагосьці з іх была падобная ў жыцці гісторыя. Напрыклад, адзін мой знаёмы, рэжысёр цырка, таксама ў сталым узросце закахаўся ў маладую конніцу-акрабатку. Шыкоўная была дзяўчына! Я казаў яму: "Што ты робіш, у цябе ж такая цудоўная сям'я?" А ён мне: "Слава, ты не разумееш: гэтая маладосць, ядранасць, гэтыя жывот, грудзі..." Я лічу, што людзям, здольным на такую рызыку, помнікі трэба ставіць.

**ЖУРНАЛІСТ.** Вы так пераканаўча іграеце закаханага, што на месцы вашай жонкі, я б, напэўна, крышачку хвалявалася.

**Р. ЯНКОЎСКІ** (усміхаецца). Мая жонка — жонка акцёра, з якім пражыла 52 гады. Яна мне верыць. Іграючы жарсці на сцэне, гэта не значыць, што я адчуваю іх у жыцці. Іншая справа, што элемент нейкай закаханасці ў персанаж, партнёршу ўсё ж такі павінен быць. На мой погляд, тэатр па сваёй сутнасці нават у нечым эратычны, у ім ёсць моц прыцягальнасці... Мая жонка ўсё гэта разумее і не раўнуе мяне.

**ЖУРНАЛІСТ.** У адным з вашых інтэрв'ю вы казалі, што акрамя тэатра іншых інтарэсаў не маеце.

**Р. ЯНКОЎСКІ.** Тэатр... я лічу найвялікшым з мастацтваў. Толькі званок зазвоніць у грымёрцы, калі ты чуеш — зала напаўняецца гоманам людзей, у цябе ўжо дрыжыкі па целе бягуць. Памятаю, на сваім юбілеі я выйшаў на сцэну разам з жонкай. Бура апладысментаў. А я ў яе пытаюся: "Ніна, ты цяпер адчуваеш, што такое апладысменты? Гэта калі хочацца адарвацца ад зямлі і — паляцець!" Гэта такая энергетыка, такое паветра! І вось акцёр усё гэта атрымлівае, калі ён добра іграе. У Дзюрэнмата адзін п'яны рэжысёр сказаў: "Сцэна — гэта адзіная альтэрнатыва моргу". Памятаю, пасля трох аперацый, калі зноў выйшаў на сцэну, я... задыхаў. Мяне выратавала энергетыка залы. Выпадковая сустрэчная пытаецца ў мяне на вуліцы, маўляў, як вы сябе адчуваеце? Адказваю, што не зусім добра, а яна мне: "Іграйце, мы вас любім, мы вас вылечым". Гэта яна вельмі дакладна заўважыла!

**ЖУРНАЛІСТ.** Расціслаў Іванавіч, вы ўжо шмат гадоў служыце ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. Я ніколі не бачыла вас у антрэпрызе.

**Р. ЯНКОЎСКІ.** Грошы я магу зарабіць і іншым спосабам. Хаця, у пастаноўках беларускага рэжысёра М. Пінігіна, які цяпер працуе ў Расіі, а ў Мінску ставіць антрэпрызныя спектаклі, я б хацеў, напэўна, сыграць. Але толькі ў тых, якія зроблены ім не спяшаючыся, удумліва. Гэты рэжысёр мяне цікавіць.

**ЖУРНАЛІСТ.** А вас не крыўдзіць, калі Мінск называюць тэатральнай правінцыяй?

**Р. ЯНКОЎСКІ.** Крыўдзіць, але вы ведаеце, я магу сказаць гэтым разумнікам, што ў Мінску насамрэч высокі ўзровень тэатра. Беларусы — не цецюшы. (Падазрона.) А увогуле, хто гэта называе Мінск тэатральнай правінцыяй?





Нядаўна ў гэтай гасціннай зале ужо пяты раз адбыўся выпускны баль — свята прыгажосці і жаноцкасці. Баль прайшоў на высокім прафесійным узроўні, прыгожае афармленне залы і выдатная падрыхтоўка дзяўчынак-мадэлей проста здзівілі гледачоў.

Праграма сёлетняга выпуску падзялялася на некалькі частак. Так, у першым аддзяленні быў выхад дзяўчат у купальных касцюмах, які паказаў усю іх грацыёзнасць і прыгажосць. Паказ чароўнай калекцыі блакітных сукенак, упрыгожаных рознымі кветкамі, адбыўся у другім аддзяленні.

Пасля гэтага на сцэну запрасілі выпускніц мінулых гадоў, сярод якіх В. Баранава (2000), М. Гарэлава (2001), А. Мялько (2002). Яны выка-



# ПРЫГАЖОСЦЬ — ВЯЛІКАЯ СІЛА!

***Напачатку была ідэя: у мэтах эстэтычнага і духоўнага выхавання маладога пакалення стварыць Нацыянальную школу прыгажосці.***

І вось у 1997 годзе ў нашай краіне з'явілася такая школа, як структурнае падраздзяленне Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа. Школе прадастаўлена цудоўнае памяшканне па вуліцы Мельнікайтэ, 4, з унікальнай па тэхнічных магчымасцях дэманстрацыйнай залай.

залі падзяку настаўнікам, а дзяўчынкам-пачаткоўцам пажадалі поспеху.

Усе свае харэаграфічныя здольнасці, пластыку і прыгажосць танцаў дзяўчынкі паказалі ў трэцім аддзяленні праграмы. Затым прайшло віншаванне педагагічнага калектыву школы. У адрас настаўнікаў было выказана шмат шчырых і прыемных слоў.

І, канечне ж, пры канцы выпускнога балю — паказ вячэрніх строяў. Гэта быў сапраўды самы яскравы момант праграмы. Усе дзяўчынкі выглядалі чароўна, і шматколерны бляск іх убораў так спадабаўся гледачам.

**ЖУРНАЛІСТ.** Так лічыць малады беларускі драматург Андрэй Курэйчык.

**Р. ЯНКОЎСКІ.** (Лагодна, з добрай усмешкай.) Курэйчык — добры хлопец. Ён вельмі таленавіты чалавек, я з павагай стаўлюся да яго, але ў гэтым выпадку ён не зусім мае рацыю. Гэта яшчэ маладосць...

*СЦЭНА ДРУГАЯ. ЯНКОЎСКІ ДЫ ІНШЫЯ.*

**ЖУРНАЛІСТ.** Расціслаў Іванавіч, раскажыце, калі ласка, як жывуць, чым займаюцца вашыя сыны, прадаўжальнікі дынастыі Янкоўскіх?

**Р. ЯНКОЎСКІ.** Дарэчы, я з павагаю стаўлюся да дынастый. Гэта не мафія і не клан. Хаця, я чуў аднойчы дзівака, які скардзіўся, што, маўляў, Пятрусь з вёскі не можа вучыцца, таму што клан Янкоўскіх яму замінае. Мой малодшы сын, Уладзь, да прыкладу, скончыў наш інстытут і працаваў, добра працаваў акцёрам у тэатры. Ну, сышоў, таму што не любіў тэатр, а любіў кіно. Сёння ён здымае відэакліпы, у якіх я нічога не разумею. Старэйшы сын Ігар таксама пачынаў вучыцца ў Мінску, але потым паступіў у Шчукінскае вучылішча, "служыў" у тэатры на Малой Бронnай. Аднак на заробак акцёра яму было цяжка пражыць: сёння Ігар жыве ў Маскве і працуе старшынёй Савета дырэктароў рэкламнай кампаніі "Максіма". І я проста бедны чалавек у параўнанні з імі, бедны тата. Але ў мяне добрыя сыны, якія замілавана ставяцца да сваіх бацькоў. Увогуле, я не веру ў тое, што "на дзецях геніяў Бог адпачывае".

**ЖУРНАЛІСТ .** Агульнавядома, што ваш сын, Уладзь, быў вымушаны адмовіцца ад пастаноўкі фільма "Анастасія Слуцкая".

**Р. ЯНКОЎСКІ.** Так, на жаль, Уладзь павінен быў гэта зрабіць, і я яго разумею: зняць сапраўдны нацыянальны блокбастар без грошай — справа клапатлівая. Хаця б хто-небудзь з нашых прадпрымальнікаў адгукнуўся. Ніхто! Уладзька, бедны, паўсюль прасіў — ніхто, ні капейчыны. Яны напалоханыя ці проста "зажраліся"... А "Анастасія Слуцкая" магла б быць вельмі добрай карцінай. Рамантычнай, паэтычнай кіналегендай пра беларускую Жанну Д'Арк. Толькі тут неабходныя вялікія грошы...

Дай Бог, каб Уладзь зняў калі-небудзь сваю карціну. Мая мара, пакуль я яшчэ крочу па зямлі, зняцца ў фільме сына. Мне падабаецца ягоы розум, уменне мысліць. Хаця я часцяком і лаюся з Уладзем, але да яго меркавання заўсёды прыслухоўваюся.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Фота А. МАЦЮША**

У імпрэзе бралі ўдзел "Міс Беларусь — 2000", "Міс фота — 2002", "Літл міс Беларусь", ад якіх таксама былі цёплыя віншавальныя словы і пажаданні.

Дзяўчатам-выпускніцам уручылі дыпломы аб заканчэнні Нацыянальнай школы прыгажосці, і юныя мадэлі выказалі ўдзячнасць дырэктару школы З. Дусенцы, усім настаўнікам пажадаўшы сваёй alma-mater вялікіх поспехаў і працвітання.

**Марыя КАСЦЮКЕВІЧ**

*НА ЗДЫМКАХ: урок дэфіле; Вольга БАРАДНЮК (выпуск 2003 г.); у спартыўнай зале.*

**Фота Я. КОКТЫША**



ФЭСТЫ

***14—15 чэрвеня ў латвійскім горадзе Цэсіс праходзіў ужо III Балтыйскі сярэднявечны фестываль. Разам з латышскімі, нямецкімі, польскімі, расійскімі аматарамі Сярэднявечча ў гэты прыгожы старажытны горад прыехала і вялікая каманда беларускіх рыцараў са сталічных вайскова-гістарычных клубаў Унія "Меч і крумкач", "Карона Захаду", "Тэўтоніка", "Dueldance" і гомельскага "Сцяга Алега Святаславіча".***

# МАГІЯ СЯРЭДНЯВЕЧЧА І БЕЛЫХ НАЧЭЙ



Фестываль, які штогод ладзіцца ля магутных сцен былой тэўтонскай цытадэлі, вабіць шматлікіх турыстаў перш за ўсё разнастайнай праграмай: тут можна пабачыць амаль усе бакі жыцця сярэднявечнага чалавека, самому стаць часткай ажыўшай гісторыі. У палацавым парку на два фестывальныя дні вырастае сапраўдны горад рознакаляровых шатроў і навесаў, выстройваюцца драўляныя сталы для вечаровага піра. На невялічкай сцэне ні на хвіліну не перапыняецца дзея: музыкаў-шатландцаў змяняе сярэднявечны тэатр, а яго — дэманстрацыя рэканструяваных вікінгаўскіх і балцкіх касцюмаў. Побач выступаюць самадзейныя і прафесійныя калектывы, якія займаюцца аднаўленнем старажытных танцаў, а ў драўляных гандлёвых радах майстры з Германіі на вачах публікі вырабляюць гліняны посуд, выплаўляюць скандынаўскія ўпрыгожанні са срэбра, ткуць палатно, плятуць паясы са складанейшым узорам. Тут можна набыць амаль усё, што звязана з Сярэднявеччам — ад шыкоўнага футра ці кальчугі да сучаснага кампакт-дыска з запісам старадаўняй музыкі.

Але найбольшую колькасць гледачоў заўсёды збірае рыцарскі турнір, які праводзіцца па ўсіх сярэднявечных законах. Сёлета перамога дасталася беларусу, Брыяну ла Танісу (Дзянісу Дунаеву) з мінскай Уніі "Меч і крумкач". Менавіта ён заваяваў права называць сваю любую каралевай турніру, а таксама атрымаў прыз — прыгожы, апраўлены срэбрам рог. Завяршыўся турнір начным пірам у гонар пераможцы, на якім гасцей частавалі стравамі, прыгатаванымі выключна па старажытных рэцэптах.

Другі і апошні фестывальны дзень быў аддадзены вайсковым забавам. Найбольш смелыя маглі паспрабаваць сябе ў якасці лучнікаў, а астатнія — стаць сведкамі трох бугуртаў (агульных баёў), дзе зноў перамагла каманда на чале з беларускімі "германцамі" з Уніі "Меч і крумкач". Завяршыла фестываль тэатралізаванае ўзяцце замка, падчас якога была задзейнічана нават артылерыя.

Прыцягальнасць Сярэднявечча і магія белых прыбалтыйскіх начэй год ад году збірае ўсё больш людзей, апантаных старажытнай культурай. Але каб адчуць гэтую непаўторную атмасферу, неабавязкова выпраўляцца ў доўгае падарожжа. 3—4 ліпеня ў Нясвіжы мае адбыцца яшчэ адзін медыявальны фестываль. Ён пройдзе пад назвай "Старадаўні Нясвіж" і будзе прысвечаны 780-годдзю горада. На гэты час заяўкі на ўдзел у фэсце даслалі ля 40 сярэднявечных клубаў і музычных гуртоў з дзевяці краін Еўропы. Арганізатары абяцаюць вялікую колькасць дэманстрацыйных пляцовак, дзе будуць узноўлены абрады, тэатр, рамёствы, стравы, фехтавальнае майстэрства, медыцына, водныя і "сухапутныя" гульні і забавы. Адна з асноўных мэт фестывальнай праграмы — непасрэднае далучэнне гледачоў да культуры IX—XVI стагоддзяў. Кожны жадаючы сам зможа спячы блін, прымераць старадаўні строй, выразаць сабе лыжку, аддрукаваць грамату.

Падчас фэсту пройдзе цэлы шэраг унікальных акцый. Адна з іх — аднаўленне старой забавы князёў Радзівілаў. Адбудзецца пераадоленне воднай перашкоды — "Гібралтарскага праліву", высадка дэсанта на бераг, штурм грознай фартэцыі. Таксама будуць прэзентаваныя "Сярэднявечны дыябетычны праект", калекцыі рэканструяванай бялізны (пры ўдзеле кампаніі "Serge") і абутку. Адбудзецца падчас фестывалю і доўгачаканая прэм'ера кінастужкі "Анастасія Слуцкая" з удзелам у паказах членаў здымачнай групы фільма.

Усе падзеі гэтага сярэднявечнага свята будуць падрабязна асвятляцца ў тэлеверсіі фэсту, якую будзе рыхтаваць ОНТ. Мы таксама абавязкова наведаем "Старадаўні Нясвіж" і раскажам пра гэты сярэднявечны фестываль.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*НА ЗДЫМКУ: пераможца турніра Брыян ла Таніс.*

**Фота А. ІЛЛІНА.**

МАСТАКІ

# ВЕЧНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ



***Творчасць мастака-пейзажыста Валерыя ШКАРУБЫ — гэта няўтольная смага пазнання прыгажосці і жаданне яе ўсяму свету. Яговыя краявіды ўспрымаюцца менавіта так паўсюль, куды б ён ні паехаў з выставамі, а быў ён у Кітаі, Грэцыі, Расіі, ЗША, Францыі, Італіі, Германіі, Бельгіі, Аўстрыі, Славакіі, Даніі, Турцыі, Польшчы.***

Вядома, што творчы поспех залежыць найперш ад таленту. Але нават самы таленавіты майстар не створыць нічога вартага, калі ў творчым акце не ўдзельнічаюць розум і сэрца. Цудоўнае яднанне таленту і душы характарызуе жывапісца Валерыя Шкарубу. Ужо ў першых работах "Пачатак зімы" (1985), "Першая зеляніна" (1986), "Зімні дзень" (1987) мастак здолеў знайсці сваю адметную мову, свае асаблівыя выразныя сродкі. Зараз ён адзін з найбольш вядомых майстроў беларускага краявіду. Яго творчасць пазначана традыцыяй рэалістычнага пейзажа XX стагоддзя. Апошняя яго серыя "Адвечнае" (2000—2002), якая экспанавалася ў кастрычніку мінулага года, складаецца з 30 жывапісных твораў. У іх мастак стварыў вобразы чыстай, некранутай прыроды — вечных каштоўнасцей чалавечага існавання. Гэтая серыя сёння ўспрымаецца як кульмінацыя творчай эвалюцыі мастака, які прыйшоў праз пошук сваёй індывідуальнасці ў мастацтве да твораў нацыянальнага характару, да вобразаў адвечных. У карцінах серыі "Адвечнае" адлюстраваныя такія першаэлементы прыроды як гармонія, мера, рух, энергія, рытм, свет, прыгажосць: "Апошняе свята", "Вечар", "Мелодыя цішыні", "Хвалянанне", "Роздум" і іншыя. Дарэчы, карцінам Валерыя Шкарубы папярэднічае вялікая падрыхтоўчая праца на пленэры, натурныя пошукі.

Асаблівая вытанчанасць дробнага мазка, гармонія форм і фарбаў, жывасць рэфлексаў, глыбінная зменлівасць святла і паветра — гэта асноўныя прыкметы аўтарскага стылю серыі "Адвечнае". Мастак выяўляе сутнасць прыроды ў лепшых традыцыях класічнага жывапісу.

**Галіна ФАТЫХАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: Валерый ШКАРУБА; "Сцяжына".*



***Белых начэй мы не пабачылі. Шкада. Бо акурат на самыя кароткія ночы прыпала фестывальнае бяссонне. Змяркалася хутка, неба над Маладзечнам рабілася цёмнае ад хмар, з якіх раз-пораз густа сеяліся серабрынкі дажджу. Дождж мог зрабіць шэрымі фестывальныя дні. Але яны, як і ночы, атрымаліся... срэбратканымі. Ад нітачак жывой нябеснай вады. Ад повязі спеўных галасоў ды інструментальных переразоваў. Ад меланхалічных успамінаў, светлых фантазій ды надзей.***


Першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Л. КРУПЕЦ, мэр Маладзечна М. ЧУРСІН, міністр культуры Л. ГУЛЯКА.


Спеўная талака.


Мітынг ля музычнага вучылішча.


Вядучыя праграм А.СПІРЫДОВІЧ і Г. ДАВЫДЗЬКА.


Маэстра М. ФІНБЕРГ.

# СОЛАДКА СЭРЦУ МАЛІЦЦА

Праграме ўрачыстага адкрыцця Нацыянальнага фестывалю беларускай песні ды паэзіі "Маладзечна-2003" назву даў радок Уладзіміра Жылкі: "Беларусь, на цябе я малюся!" І не ўласным вершам, а словам-эсэ пра гэтага своеадметнага паэта звярнуўся ў той вечар да гледачоў Леанід Дранько-Майсюк, паўтарыўшы, як запавет: " О, як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь!" Колькі сэрцаў шчыра і моўчкі адгукнулася, падхапіла гэтую малітву...

Стракатасць фестывальных імгненняў. Ганараванне лаўрэатаў сёлетняга Рэспубліканскага конкурсу маладых эстрадных выканаўцаў, а гэта Уладзімір Аўчароў, Максім Сапацькоў, Руслан Аляхно, Аляксандр Звяровіч, мужчынскі вакальны квінтэт "Рэй". Уручэнне Дзяржаўнаму канцэртнаму аркестру Беларусі на чале з маэстра Міхалам Фінбергам прэміі імя Уладзіміра Мулявіна, заснаванай аргкамітэтам, і спецыяльнага прыза (аўтамабіля) Маладзечанскага гарвыканкама. Прывітанне гасцям і ўдзельнікам свята ад кіраўніка дзяржавы (пад патранатам якога яно і ладкавалася), зачытанае міністрам культуры Леанідам Гулякам, і кошык чэрвеньскіх кветак — ад Прэзідэнта. Літаратурныя сустрэчы; выступленне Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Генадзя Цітовіча поруч з цюменскімі беларускамі; прэзентацыя камерных калектываў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра ў новым Палацы культуры; мітынг ля помніка Міхалу Клеафасу Агінскаму...

Размову пра фестывальныя імпрэзы працягнем у наступным нумары "ЛіМа".

С. БЕРАСЦЕНЬ


Саліруе Д. КАЧАРОЎСКІ.


Помнік М. Кл. АГІНСКАМУ.


Ансамбль флейтыстаў "Сірынкс".


Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў А. ПАШКЕВІЧ.


Пакуль няма дажджу...

# БЕЛАХВОСЦІК Валянцін Сяргеевіч



Тэатральнае мастацтва Беларусі, грамадскасць рэспублікі панеслі цяжкую страту. На 69-м годзе жыцця перастала біцца сэрца акцёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянціна Сяргеевіча Белахвосціка.

В. С. Белахвосцік нарадзіўся 6 верасня 1934 г. у в. Багушэвічы Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння ў 1958 г. драматычнай студыі Беларускага тэатра імя Янкі Купалы, а ў 1965 г. — Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва ў Маскве ён быў залічаны ў трупу Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, з якім назаўсёды звязаў свой творчы і жыццёвы лёс.

Заўзятая працавітасць, талент, пераемнасць вопыту старэйшых артыстычных пакаленняў — усё гэта выявіла яскравую, творчую, артыстычную асобу Валянціна Белахвосціка. Ён арганічна спалучаў на сцэне жыццёвае падабенства з яркім тэмпераментам акцёра. Вобразы, створаныя акцёрам у беларускім рэпертуары, вылучаліся глыбокай жыццёвай праўдай, нацыянальным каларытам.

Валянцін Белахвосцік умеў паказаць у кожным драматычным вобразе глыбіню ўнутраных перажыванняў, з павагай ставіўся да беларускага мастацкага слова, якое заўсёды гучала па-народнаму сакавіта і рабіла асабліва прыкметнымі выступленні акцёра як у камедыі, так і ў трагедыі.

З 1965 г. В. С. Белахвосцік плённа здымаўся ў кіно, якое прынесла акцёру ўсенародную славу. Сярод лепшых фільмаў: "Аптымістычная трагедыя". "Учора, заўтра і заўсёды", "Дума пра Каўпака", "Рудабельская рэспубліка", "На ростанях", "Воўчая зграя", "Трэцяга не дадзена", "Плач перапёлкі", "Эпілог".

У 1989 г. за ролі ў радыёспектаклях "Хамуціус" паводле А. Куляшова і "Рыбакова хата" паводле Якуба Коласа артыст быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

У 1994 г. В. С. Белахвосцік атрымаў ганаровае званне "Народны артыст Беларусі".

Да апошняга часу Валянцін Сяргеевіч Белахвосцік выходзіў на сцэну. Моцнае ўражанне пакінула роля купалаўскага артыста ў нязвыклай для драматычнага тэатра op опернай пастаноўцы "Фаўст" паводле Гётэ. Гледачы тэатра імя Янкі Купалы памятаюць яго незабыўныя ролі: Кейстут у спектаклі "Князь Вітаўт" А. Дударава, "Анёл" ("Тутэйшыя" Янкі Купалы), сэр Джон ("Касцюмер" Р. Харвуда), Сват Зуйка ("Страсці па Аўдзею" У. Бутрамеева)...

Светлая памяць пра таленавітага артыста, цудоўнага, сціплага чалавека назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**У. Н. Дражын, А. В. Праляскоўскі, І. А. Карэнда, Л. П. Гуляка, Я. У. Рыбакоў, М. Я. Паўлаў, Г. А. Арлова, Г. С. Аўсяннікаў, В. Д. Анісенка, В. М. Баркоўскі, З. І. Браварская, І. І. Вашкевіч, Г. М. Гарбук, Б. Ф. Герлаван, Г. В. Давыдзька, А. А. Дудараў, М. Г. Захарэвіч, А. І. Клімава, Б. І. Луцэнка, А. Л. Мілаванаў, А. К. Памазан, В. М. Раеўскі, Р. Б. Смольскі, Г. С. Талкачова, В. П. Тарасаў, Ф. І. Шмакаў, А. В. Яфрэмаў, Р. І. Янкоўскі.**

***НА ЗДЫМКУ: Валянцін БЕЛАХВОСЦІК у спектаклі "Радавыя".***





**Вячаслаў АДАМЧЫК**

# ДЗЁННІК

**(Заканчэнне. Пачатак у 24 нумары)**

**Панядзелак, 28 жніўня 1978 года**

На суботу і нядзелю вырваўся з чацвёртае палаты да брата і ўжо разам з ім праз Полужні, дзе яшчэ астаўся лужок, але ўжо абапал якога выбудавалі цагляныя склады, схадзіў у Babakомшчыну. Брат па дарозе, на "весавай", дзе Віталь Кякшук са Станкевічам узважвалі навагрудскія машыны з вуглём – не, спярша пустыя, – прычашчаўся.

У Полужнях на нарыхтоўчай базе засталі мацеру, што прыйшла на варту замест бацькі. Перачакалі дождж і шырокаю, як у нас казалі, дарогаю, што некалі выбягала на Азярышчанскую грэблю, каля Жуковае гары пайшлі ў вёску.

Мяне брала дзіва, што ўжо Язэпавым (Лазовік) і Мацюшкавым полі на грудзе, дзе падымалася дарога на Руськае поле, густа зацямнеў хвойнік, пасаджаны гады чатыры назад. Адтуль з грудоў па лагчыне абапал рова, вымытага вадою, ён цягнецца аж пад шашу да вёскі – бярэзнік уперамежку з соснамі.

Хата была замкнёна. Бацьку мы спаткалі напроці Гульнікавай хаты каля каменняў і клёна – ён ішоў з садку. Дома пры чарцы трохі пасядзелі за даўнейшым ясеневым сталом, некалі пафарбав. на чорна, а цяпер чыста вымыт. і паскрэбеным нажом, пагаварылі і вярнуліся ў Наваельню ўжо ляском за рэчкаю, дзе ў густым шчытніку перад Марыліным ровам я знайшоў два баравічкі.

У нядзелю хадзілі зноў, але перашкодзіў дождж з градам, што загнаў нас на помпу, што некалі чахкала і чмыхала, беручы з рэчкі ваду. Яшчэ і цяпер там ёсць дзяжурны, што распісваецца ў шырокім журнале, і стаяць два паравыя катлы, у якія некалі ад чыгункі жалезнаю тачкаю-ваганеткаю падвозілі вугаль.

Даўнейшае асталося толькі ў лесе – шум хвойніку, галубенькі мох, слізкая ігліца і танюсенькі ціўкат сініцы...

Чую яе і цяпер за акном на мокрай яблыньцы, жаўтлява-шарую, як рыбка-курмяшка, з белымі шчочкамі і чорным берэцікам на галоўцы. Яна пералятае з галіны на галіну аблатошанага ўжо дрэва, што шырокім зялёным лісцем шоргае па шыбе акна.

[неразб.], пасля ранішняга абходу выпісалі чарнявага механізатара і на яго месца (дарэчы, на маё, бо я перабіраюся да сцяны, адбыўшы тэрмін "нававбранца" спаць пасярод палаты) прыйшоў, накульгваючы, невысокі, з адтапыранымі вушамі, мужчына.

– Во, Галубоўскі! – заварушыўся на ложку рыжы рабаваты Семярнік.

– Ага, прыйшоў, каб каштыле паправілі. З нагою нешта прылучылася, – ён памацаў балячае калена. – Сама праз сябе. Дошку хацеў на калена паставіць.

– Як там? – запытаўся, адняўшы голаў ад падпёртае рукі, пажылы нізенькі мужчына з Петрашоў.

– Ды ўсё, лічы, пазвозілі з поля.

– А я во сяджу ды думаю, што канюшына змарнуецца... Я адыходзіў (у бальніцу) – цвіла. Каб скасілі, як тая пагода была, а то ні сабе, ні людзям.

– Цяперашнімі часамі... – не дагаворвае мужчына з адтапыранымі вушамі.

– У нас німа таквеля.

Пасля полудня – сухая плазма.

Мяне кінула ў жар, залажыла вушы, і адразу на целе высыпаў трут – густы, чырвоны.

Я спярша ўчуў, як мяне разбіраў сверб... Потым, здэцца, пачала пухнуць скура на лбе і пячы, гарэць шчокі.

Я памацаў лоб... Скура была як нежывая і на руцэ /каля жылкаў убачыў трут. Я папрасіў Якшука/Баравіка паклікаць сястру.



Яна, прыгожая, танюткая маладзіца, збялела і вышмыгнула з палаты: пэўна па маім чырвоным твары ўбачыла, што плазма мне не пайшла, што ў мяне алергія.

Прывяла другую, ужо прыбегшы з вялікім шпрыцом. Укол у вену нібы нацягнуў перада мною тую тонкую нітачку, каб я не ступіў у чорную прорву – не самлеў. Зверху ўніз па мне хлынуў агонь. Агонь ратунку. Але мне здалося, што я пачаў "oddawaж mocz" і разам з тым учуў, што ачуньваю.

Праз гадзіну, калі я падняўся, каб сустрэць брата, мяне пахіствала, і, аслабелы, я мусіў вярнуцца ў ложак.

У палаце, паставіўшы між ложкаў табурэт, "рэзаліся" ў дурня.

– Пайшоў ён на ... хустачку карове.

– Пытаеш, як кормяць? Даюць, пруць і па кавалку яшчэ валяецца.

– Храсты ў кусты, – смяецца шчарбаты Якшук з Петрашоў.

– Улісціў, так улісціў, – злуе рабаваты Семярнік, – прэнткі які. Пагоны пакідоў, бачыш!..

– Да пагонаў патрэбны і мундур.

**26 снежня 1978 года. Аўторак.**

Сёння з работы прыйшоў сюды, ў 14 палату на чацвёртым паверсе, у тэрапеўтычнае аддзяленне. Абрыдлі за гэты год мне бальніцы – трэці раз ужо ў іх.

На стале застаўся "Год нулявы", з якога я выбіўся на нейкую ўжо лічбу – пачаў пісаць, і на табе – бальнічная палата, пігулачкі но-шпы ды алахол.

У прыёмным пакоі, дзе я праседзеў, можа, з паўгадзіны, стары, з голым чэрапам ды <пазлацанымі> акулярамі, дзед рэгістраваў мяне, пытаючы спярша прозвішча, узрост, месца работы. Потым я сядзеў у пакойчыку, раздзеты, чакаючы, покуль прынясуць адзежу. Але прыйшоў доктар, загадаў легчы на кушэтку, агледзеў мой жывот. Спытаў, ці куру, і парадзіў: "Кідайце курыць, пачынайце піць." Я не вельмі разабраў яго жарт і кажу: "Кінуць піць магу, курыць – не." "Гэта горш," – засмяяўся сівавалосы, з сівымі вусамі, доктар – мужчына са мною адных год. Сястра прынесла сінюю, злінялую, засціраную куртачку і порткі, старыя разрэзаныя, бо не сыходзіліся на нечай назе, тапкі, нейкія злінялыя трусы і майку (у Наваельні была зжоўклая бялізна, і байкавая куртачка, і порткі папяловыя), зважыла мяне (64 кг.), і змерыла (1 м.71 см.), і прывяла сюды, на чацвёрты паверх у 14 палату, дзе мы ўтрох – дырэктар універмага, з карычнев[ымі] ад банак кружкамі, якому ставілі гарчычнікі, і нейкі, кажуць, цыркач.

**Серада, 27 снежня 1978 года.**

Уночы не спалася, не памог і родадорм. Звечара не далі спаць гэтыя два падсуседы, што "паміналі" нейкага дзядка: сканаў ён учора наранкі, схадзіўшы яшчэ ў гадзін 6 у туалет, а ў 7 ужо быў нежывы.

Змена пагоды – адліга, таму мне і не спалася. У 7 з шпрыцом і тэрмометрам прыбегла сястра, папярэдне з калідора ўключыўшы святло – вялікі малочны шар, што вісіць у мяне над галавою. У мяне 36. Прынесла зноў у шкляной нізенькай чарачцы чатыры таблеткі – дзве жоўтыя плюскатыя алахолу. У гадзін 10 з тэтаскопам і каробачкай мерыць ціск – доктар, бялявая, з ястрабіным носам, ужо не маладжавая, з мяшкамі пад вачыма, кабета.

– Что Вы нервный, я вижу. Надо бросить курить. Давно начали?

– З вайны, – смяюся я.

Загадала прылегчы. Намацала жывот. Знайшла, паціскаўшы пад правым скабам, што павялічана печань.

– І чаго нага халодная. Будзе бяда.

І пайшла палохаць. Папрыпісвала таблеткі – зноў но-шпу, мепрабамат, яшчэ нешта.

Удзень разбалелася галава, і я нічога не піў нанач.

Загадчык магазіна, жуючы яблык, выхваляецца, што два разы гуляў на вяселлі ў Доме літаратара.

– Красивый там бар.

Дом пісьменніка даўно займаюць гулямі і вяселлямі.

З вечара вярнулася сястра – вочы блішчаць – асалавелі ад гарэлкі і віна, яна кісла смяецца і пора іголкаю ў дупу загадчыку.

Чытаю Шчэпаньскага, яго "Мытыля", каб вывудзіць якую крэсачку для сябе з таго



ФЕСТЫВАЛІ





***XII Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" сёлета распачнецца раней за мінулыя гады: 11 ліпеня. Праўда, святочнае адкрыццё фэсту адбудзецца 12 ліпеня, як заўсёды на галоўнай канцэртнай пляцоўцы — Летнім амфітэатры.***

# НАПЯРЭДАДНІ «СЛАВЯНСКАГА БАЗАРУ Ў ВІЦЕБСКУ»

Як паведамілі ў прэс-службе Дырэкцыі Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" першыя дні фэсту будуць прысвечаны XII Міжнароднаму конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск — 2003", у якім мяркуюць прыняць удзел маладыя артысты з Беларусі, Украіны, Арменіі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Расіі, Балгарыі, Босніі і Герцагавіны, Македоніі, Сербіі і Чарнагорыі, Польшчы і нават ЗША. Паводле новага фармату конкурсу 11 ліпеня пройдзе паўфінал, па выніках якога Міжнародным журы будуць аб'яўлены імёны 12 канкурсантаў, якія працягнуць змагацца за галоўны прыз ў фінале (першы дзень фіналу конкурсу адбудзецца ў рамках праграмы ўрачыстага адкрыцця фестывалю ў Летнім амфітэатры). Сёлета журы XII Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні ўзначаліць кампазітар, народны артыст Расіі Андрэй Пятроў, а з беларускага боку ў журы ўвойдуць прафесар, народны артыст Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ Міхал Фінберг, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Скараходаў.

У рамках фестывалю таксама адбудзецца Міжнародны дзіцячы музычны конкурс, у якім возьмуць удзел пераможцы нацыянальных і міжнародных дзіцячых музычных конкурсаў ва ўзросце ад 7 да 15 гадоў (14—15 ліпеня). Старшыня журы Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу — кампазітар, прафесар, народны артыст Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік студыі "Верасы" Васіль Раінчык.

Усяго на фестывалі будзе арганізавана 57 розных культурна-масавых мерапрыемстваў. Несумненна, найвялікшы ажыятаж выклікаюць сольныя выступленні М. Баскава, С. Ратару, Б. Маісеева, Я. Арлазорава, а таксама гуртоў "Любэ", "Бі-2", "Начныя снайперы". У Летнім амфітэатры адбудзецца праграма "Зроблена ў Санкт-Пецярбургу" з удзелам папулярных выканаўцаў "Отпетые мошенники", "Сливки", "Гости из будущего"... У КДЦ "КІМ" пройдзе праграма "Майстры расійскага джаза" з удзелам Г. Гараняна, Д. Галашчокіна, А. Кузняцова.

Трэці раз у Віцебску будзе святкавацца Дзень дружбы братэрскіх народаў Беларусі, Расіі і Украіны (17 сакавіка). Дзень горада Віцебска і Дзень культуры Беларусі пройдзе 13 ліпеня, Дзень культуры Украіны — 15 ліпеня, Дзень культуры Расіі — 16 ліпеня.

Як заўсёды будзе вельмі насычанай і праграма "Тэатральных сустрэч", у якой сёлета возьмуць удзел спектаклі Б. Мільграма ("Гогаль-могаль"), Р. Вікцюка ("Маю жонку завуць Морыс", "Антоніо-фон-Эльба"), Р. Стуруа ("Апошні запіс Крэпа"), І. Райхельгаўза ("Усё будзе добра, як вы хацелі").

Працягнецца фестываль да 17 ліпеня.

**В. Б.**

*НА ЗДЫМКАХ: Летні амфітэатр; Іосіф КАБЗОН у Віцебску; госці "Славянскага базара" (злева — кампазітар А. ПЯТРОЎ).*

**Фота В. РАПЕЦКАГА**



## АФІША ЧЭРВЕНЯ—ЛІПЕНЯ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**27, 6** — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"
**29** — А. Хачатуран "Спартак"
**1** — С. Пракоф'еў "Рамэа і Джульета"
**2** — Г. Герольд "Марная перасцярога"
**8** — А. Пятроў "Стварэнне свету"
**10** — А. Мдзівані "Страсці (Рагнеда)"
**20** — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
**Пачатак а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

**30** — Я. Стэльмах "Каханне ў стылі барока" (прэм'ера)
**Пачатак а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11**

**27** — Э. дэ Філіпэ "Філумена Мартурана", камедыя
**Пачатак а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1, тэл. 289-32-62**

**27, 28** — М. Куліш "Аповед пра Гуску..." (прэм'ера)
**Пачатак а 19-й гадзіне**

**Малы тэатр**
**вул. Чырвонаармейская, 3 (ЦДА), тэд. 239-78-49**

**27** — "№ 13" паводле п'есы Р. Куні "Акно"
**Пачатак а 19-й гадзіне**

**Зала камернай музыкі (пр. Скарыны, 44а)**

**8 — Гітарыст В. Тарлецкі.** У праграме Альбеніс, Іваноў-Крамской, Паганіні, Віла-Лобас ды інш.

**10 — "Галантная прапанова".** Мінскі струнны квартэт у складзе: Ю. Герман, А. Уласенка (скрыпкі), У. Хімарода (альт), Д. Скляроў (віланчэль). Саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі К. Шараў (арган, клавесін). Музыка Вівальдзі, Гендэля, Бартнянскага, Леклера ды інш.

**15 — Канцэрт арганнай музыкі.** Творы Фробергера, Баха, Райнбергера грае У. Неўдах.

**Цэнтральны дом афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3)**

**1 — "Пад мірным небам сталіцы".** 59-й гадавіне вызвалення Мінска прысвячаецца. Удзельнічаюць у канцэрце І. Алоўнікаў, Н. Душчынікава, Н. Мікуліч, І. Абалян, А. Звяровіч, Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам П. Вандзілоўскага і Дзяржаўны камерны хор РБ пад кіраўніцтвам Н. Міхайлавай, ансамбль "Свята" (пад кіраўніцтвам А. Кашталянава), гурт "Купалінка", група сучаснай харэаграфіі "ТАД" пад кіраўніцтвам Д. Куракулава, Мінскі струнны квартэт.

## ГАСТРОЛІ

# ОПЕРА — ТУТ, ОПЕРА — ТАМ!

На пачатку чэрвеня Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі выправіўся ў Германію. У гастрольным рэпертуары — толькі два творы: "Аіда" і "Набука" Д. Вердзі.

Аднак закрыццё сезона тэатр пакуль не абвяшчаў. Артысты, якія засталіся ў Мінску, ладкавалі канцэртныя праграмы, далі нават спектакль — "Вяселле Фігара".

Перш чым развітацца з публікай да новага сезона, які адкрыецца прэм'ерай "Хаваншчыны" М. Мусаргскага, Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы парадаваў меламанаў гала-канцэртам сваіх салістаў і аркестра. Было гэта ўчора, 26 чэрвеня.

**С. Б.**



***Лепшыя творы Міхаіла КАРПУКА экспанаваліся на персанальных выставах у Мінску, Бабруйску, Мазыры, Полацку. Іх бачылі таксама ў Літве, Польшчы, Швецыі.***

## ВЫСТАВЫ

ным убачыць адметнае, яскравае, штоператвараецца ім у мастацкі вобраз. Асаблівае значэнне ў творчасці мастака займае пейзаж. Ён любуецца красою зямлі, бляскам сонца, слухае гоман птушак у бары. Вобразы прыроды гучаць мажорнымі фарбамі. Гэта заслуга мастака, які простым алоўкам можа выказаць сутнасць стану прыроды, што бачым у аркушах — "У родным краі", "Веснавое поле", "Зімовы змрок", "Браты".

Майстар звяртаецца і да жанру партрэта. У гэтай галіне яго малюнак бездакорны падабенствам да сваёй мадэлі, дасягае глыбіні чалавечага характару. Яго аркушы "Мая маці", "Партрэт бацькі" добра ілюструюць гэта. Мастак захапляецца старажытнымі мурамі роднага краю — "Куточак даўніны", "Георгіеўская царква ў Давыд-Гарадку".

# ВУЗЛЫ НА ПАМЯЦЬ

**Міхаіл КАРПУК** нарадзіўся ў 1930 годзе на Берасцейшчыне ў вёсцы Мыкшыцы. Вучыўся ў Мінскай мастацкай вучэльні, а потым у Маскоўскім паліграфічным інстытуце.

Адкрыццё выставы твораў М. Карпука праходзіла днямі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Мастак заслугоўвае гэтага. У Карпука каштоўны талент востра адчуваць прыгажосць і разнастайнасць свету. Ён мае здольнасць у будзён-

Пасля адкрыцця выставы сядзім у майстэрні ў Траецкім прадмесці. Пытаю:

— Як табе жывецца, Міхась?

— Як усім, не шыкую. Вельмі цяжка прадаць карціны, каб заплаціць за майстэрню, каб зарабіць на хлеб. Але я аптыміст. Я ні дня без алоўка і пэндзля — пішу вузлы на памяць.

**Уладзімір СВЯТЛОЎ**

*НА ЗДЫМКАХ: Міхаіл КАРПУК; "У родным краі".*






Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-85-25**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1644
Нумар падпісаны ў друк 18.06.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1591

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12